ДАЧА—1) дача (норма фуражу) 2) даваньне (харчы).
ДВАЖДЫ—двойчы.
ДВЕРЬ—дзьверы.
ДВЕРЦА — дзьверцы, дзьверкі.
ДВЕРЦА РЕВОЛЬВЕРА —заслонка рэвальвэра.
ДВИГАТЕЛЬ—рухавік.
ДВИГАТЬ,-НУТЬ — рухаць, рушыць.
ДВИГАТЬСЯ (строем)—пасувацца.
ДВИЖЕНИЕ—рух.
ДВИЖЕНИЕ ВПЕРЕД—пасуваньне ўперад.
ДВИЖЕНИЕ ШЕРЕНГИ —пасуваньне, рух шарэнгі.
ДВИЖУЩАЯСЯ ЦЕЛЬ —рухомая цэль.
ДВОЙНОЙ—падвойны.
ДВОЙНОЕ ДЕЙСТВИЕ—падвойная дзейнасьць.
ДВОР—двор.
ДВОЯКИЙ—дваякі, падвойны.
ДВУХКОЛЕСНЫЙ—двухкольны.
ДВУКОЛКА ПУЛЕМЕТНАЯ—двухколка кулямётная.
ДВУХДНЕВНЫЙ—двудзённы.
ДВУХНЕДЕЛЬНЫЙ — двохтыднёвы,
ДВУХМЕСЯЧНЫЙ — двохмесячны.
ДВУХКОЛЕЙНЫЙ — двохкаляінны.
ДВУХПАЛАТНАЯ СИСТЕМА—дзьвёхпалатная сыстэма.
ДВУХПЕРАЯ БОЕВАЯ ПРУЖИНА—двупёрая баявая спружына.
ДВУХСМЕННЫЙ ПОСТ —двохзьменная варта.
ДВУСТОРОННЕЕ ЛЕЗВИЕ—двухбочнае лязо.
ДВУХШЕРЕНОЖНЫЙ—двухшарэнгавы.
ДВУХШЕРЕНОЖНЫЙ СТРОЙ—двухшарэнгавы строй.
ДВУХ'ЭТАЖНЫЙ — двохпаверхавы.
ДЕБАТЫ—спрэчка, разважаньне, дэбаты.
ДЕБАТИРОВАТЬ—спрачацца, разважаць.
ДЕБР—нетра, пушча.
ДЕБУШИРОВАТЬ—апанаваць.
ДЕДУКЦИЯ—дэдукцыя, вывядзеньне.
ДЕЖУРИТЬ—дэжурыць.
ДЕЖУРНАЯ КОМНАТА —пакой дэжурнага.
ДЕЖУРНАЯ ЧАСТЬ—дэжурная часьць.
ДЕЖУРНЫЙ—дэжурны.

ДЕЖУРНЫЙ ПО КАРАУЛАМ — дэжурны па каравулах.

ДЕЖУРНЫЙ ПО КАРАУЛАМ ГАРНИЗОНА — дэжурны па каравулах залогі.

ДЕЖУРНЫЙ КОМАНДИР ПО ЧАСТИ — дэжурны камандзір па часьці.

ДЕЖУРНЫЙ ВРАЧ—дэжурны лекар.

ДЕЖУРСТВО — дэжурства.

ДЕЗЕРТИР—дэзэртыр.

ДЕЗИНФЕКЦИОННЫЙ ОТРЯД—дэзынфэкцыйны аддзел.

ДЕЗИНФЕКЦИРОВАТЬ —дэзынфэктаваць.

ДЕЗИНФЕКЦИЯ—дэзынфэкцыя.

ДЕЗОРГАНИЗАЦИЯ — дэзарганізацыя.

ДЕЙСТВИЕ — дзеяньне, дзея.

ДЕЙСТВИЕ ПАРОЛЯ — моц пароля.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНО — сапраўды.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНОСТЬ— сапраўднасьць, рэчавістасьць.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫЙ — сапраўдны, рэчавісты.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫЙ ОГОНЬ (стр)—сапраўдны агонь.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНОЕ ПОРАЖЕНИЕ — сапраўднае паражэньне.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНОСТЬ НАРЯДА — сапраўднасьць прызначэнаня.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНАЯ СЛУЖБА—прызыўная служба.

ДЕЙСТВОВАТЬ—дзеяць.

ДЕЙСТВУЮЩАЯ АРМИЯ—дзейная армія.

ДЕЙСТВУЮЩИЙ ПУЛЕМЕТ—дзейны кулямёт.

ДЕЙСТВУЮЩИЙ — дзейны.

ДЕКАБРЬ—сьнежань.

ДЕКЛАРАЦИЯ — дэклярацыя.

ДЕКОРАЦИЯ — дэкорацыя.

ДЕКОРАТИВНЫЙ — дэкорацыйны.

ДЕКРЕТ—дэкрэт.

ДЕКРЕТИРОВАТЬ — дэкрэтаваць.

ДЕЛЕГАТ—дэлегат.

ДЕЛЕГАТ СВЯЗИ (св)— дэлегат сувязі.

ДЕЛЕГАЦИЯ — дэлегацыя.

ДЕЛЕГИРОВАТЬ — дэлегаваць.

ДЕЛЕНИЕ—падзел, дзяленьне.
ДЕЛЕНИЯ ПРИЦЕЛА — падзелы прыцэльніка.
ДЕЛИТЬ — дзяліць, падзяляць.
ДЕЛО—справа.
ДЕЛОПРОИЗВОДИТЕЛЬ —справавод.
ДЕЛОПРОИЗВОДСТВО— справаводзтва.
ДЕЛЬТА—дэльта.
ДЕМАГОГ—дэмагог.
ДЕМАРКАЦИОННЫЙ — дэмаркацыйны.
ДЕМАСКИРОВАТЬ — дэмаскаваць.
ДЕМОБИЛИЗАЦИЯ — дэмабілізацыя.
ДЕМОБИЛИЗИРОВАТЬ —дэмабілізаваць.
ДЕМОКРАТ—дэмакрат.
ДЕМОКРАТИЯ — дэмакратыя.
ДЕМОКРАТИЧЕСКИЙ — дэмакратычны.
ДЕМОНСТРАЦИЯ — дэманстрацыя.
ДЕМОРАЛИЗОВАТЬ ПРОТИВНИКА—дэмаралізаваць супраціўніка.
ДЕМОРАЛИЗОВАННОСТЬ — дэмаралізаванасьць.
ДЕНЬ—дзень.
ДЕНЬГИ—грошы.
ДЕНЕЖНАЯ КНИГА — грашовая кніга.
ДЕНЕЖНЫЙ ЯЩИК — грашовая скрынка.
ДЕННИК (в конюшне) — дзеньнік.
ДЕПЕША—дэпеша.
ДЕПО—дэпо, склад.
ДЕПУТАТ — дэпутат, прадстаўнік.
ДЕРГАТЬ — тузаць, таргаць.
ДЕРГАТЬ ЗА СПУСК — тузаць за спуск.
ДЕРГАНЬЕ — тузаньне, тарганьне.
ДЕРЕВЕНЕТЬ — дзервянець.
ДЕРЕВЕНСКИЙ — вясковы.
ДЕРЕВНЯ—вёска.
ДЕРЕВО—дрэва.
ДЕРЖАТЬ—трымаць.
ДЕРЗКИЙ — гарэзны, гарэза.
ДЕРЗОСТЬ—гарэзасьць.
ДЕРИВАЦИЯ (стр.) — дэрывацыя.
ДЕРН—дзярно.
ДЕРНИНА ТЫЧКОМ (в.-инж.) — дзярніна тычком.
ДЕРНИНА ЛОГОМ (в.-инж.) — дзярніна логам.
ДЕСАНТ—дэсант.
ДЕСАНТНЫЙ ОТРЯД— дэсантны аддзел.

ДЕСТИЛЯТОР — дэстылятар, перагоньнік.
ДЕСЯТИНА—дзесяціна.
ДЕСЯТИЧНЫЙ—дзесятковы.
ДЕТАЛЬ—дэталь, драбніца.
ДЕТОНАТОР (стр.) — дэтонатар.
ДЕТОНАЦИЯ (стр.) — дэтонацыя.
ДЕФЕКТ—дэфэкт, брак, загана.
ДЕФИЛИРОВАТЬ—праходзіць.
ДЕФИЦИТ—дэфіцыт.
ДЕЦЕНТРАЛИЗАЦИЯ — дэцэнтралізацыя.
ДЕШИФРИРОВАТЬ — расшыфроўваць.
ДЕЯТЕЛЬ—дзеяч.
ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ — дзеяльнасьць, чыннасьць, дзейнасьць.
ДЖИГИТ—джыгіт.
ДЖИГИТОВАТЬ — джыгітаваць.
ДЖИГИТОВКА — джыгітоўка.
ДИАГНОЗ—дыягноз.
ДИАГРАММА — дыяграма.
ДИАЛЕКТИКА—дыялектыка.
ДИАЛЕКТИЧЕСКИЙ МЕТОД -- дыялектычны мэтад.
ДИАМЕТР—дыямэтр.
ДИАМЕТРАЛЬНЫЙ — дыямэтральны.
ДИАФРАГМА—дыяфрагма.
ДИВИЗИОН—дывізыён.
ДИВИЗИЯ—дывізыя.
ДИЕТА—дыэта.
ДИЗЕНТЕРИЯ—крываўка.
ДИКАРЬ—дзікун.
ДИКИЙ—дзікі.
ДИКТАТОР—дыктатар.
ДИКТАТУРА — дыктатура.
ДИЛЕММА -- дылема.
ДИНАМИД - —дынамід.
ДИНАМИЧЕСКИЙ — дынамічны.
ДИНАМО-МАШИНА -- дынамо-машына.
ДИНАМОМЕТР—сіламер.
ДИПЛОМАТИЯ — дыплёматыя.
ДИРЕКТИВА — дырэктыва.
ДИСК--дыск.
ДИСК МАГАЗИНА (автомата)—абойма аўтаматная.
ДИСКОВАЯ ПРУЖИНА (стр.)—дыскавая спружына.
ДИСКУСИЯ—дыскусія.
ДИСЛОКАЦИЯ — разьмяшчэньне, дыслакацыя.

ДИСПОЗИЦИЯ — дыспазыцыя (распарадкаваньне).
ДИСПУТ—дыспут.
ДИСТАНЦИЯ — дыстанцыя.
ДИСТАНЦИОННАЯ ТРУБКА (арт)--дыстанцыйная трубка.
ДИСТАНЦИОННЫЙ ОГОНЬ—дыстанцыйны агонь.
ДИСЦИПЛИНА —дысцыпліна.
ДИСЦИПЛИНА ОГНЯ (стр.) — дысцыпліна агню.
ДИСЦИПЛИНАРНАЯ ВЛАСТЬ — дысцыплінарная ўлада.
ДИСЦИПЛИНАРНОЕ ВЗЫСКАНИЕ—дысцыплінарнае пакараньне.
ДИСЦИПЛИНАРНЫЙ — дысцыплінарны.
ДИСЦИПЛИНИРОВАННОСТЬ ЧАСТИ — дысцыплінаванасьць часьці.
ДИСЦИПЛИНИРОВАННЫЙ--дысцыплінаваны
ДИФФЕРЕНЦИАЦИЯ — дыфэрэнцыяцыя, разрозьненьне.
ДИФФЕРЕНЦИРОВАТЬ — дыфэрэнцыяваць, разрозьніваць.
ДЛИНА—даўжыня.
ДЛИНОЮ—удоўжкі.
ДЛИННЫЙ—доўгі.
ДЛИТЕЛЬНОСТЬ — працяжнасьць, працяглась.
ДЛИТЕЛЬНЫЙ — працяжны, працяглы.
ДЛИТЬСЯ—доўжыцца.
ДЛЯ ПОРУЧЕНИЙ — даручэнец.
ДЛЯ ХОЗЯЙСТВЕННОЙ НАДОБНОСТИ — для гаспадарчай патрэбы.
ДНЕВАЛИТЬ — днявааліць.
ДНЕВАЛЬНЫЙ — днявальны.
ДНЕВКА—днёўка.
ДНЕВНИК—дзеньнік.
ДНЕВНОЙ—дзенны.
ДНЕМ—удзень.
ДНО—дно.
ДОБАВКА — дадатак, дадача.
ДОБАВЛЯТЬ—дадаваць.
ДОБАВОЧНЫЙ — дадатковы.
ДОБИВАТЬ-БИТЬ—дабіваць-біць.
ДОБЛЕСТНЫЙ —мужны, адважны.
ДОБЛЕСТЬ — мужства, адвага.
ДОБРОВОЛЕЦ—дабраволец, самахвотнік.
ДОБРОВОЛЬНО — самахоць.

ДОБРОКАЧЕСТВЕННЫЙ—добраякасны.
ДОБЫВАТЬ—здабываць.
ДОБЫЧА—здабыча, здабытак.
ДОВЕРЕННОСТЬ—даверанасьць, паўнамоцтва.
ДОВЕРИТЕЛЬ—вернік.
ДОВЕРЧИВЫЙ—імаверны.
ДОВЕРЕННОЕ ЛИЦО—упаўнаважаная асоба.
ДОВОД—довад.
ДОВОЛЬНО—даволі, досыць, годзе.
ДОВОЛЬНО ДАЛЕКО—подалек.
ДОВОЛЬСТВИЕ—спажытак.
ДОВОЛЬСТВИЕ БРОНЕВЫМ ИМУЩЕСТВОМ—забесьцячэньне бранявою маемасьцю.
ДОВОЛЬСТВИЕ ВОЙСК ИМУЩЕСТВОМ СВЯЗИ—забесьпячэньне войска маемасьцю сувязі.
ДОВОЛЬСТВИЕ КРАСНОЙ АРМИИ И ФЛОТА ПОЛИТПРОСВЕТИМУЩЕСТВОМ—забесьпячэньне чырвонай арміі і флёту палітасьвет маемасьцю.
ДОВОЛЬСТВОВАТЬ—забясьпечваць, харчаваць.
ДОВОЛЬСТВОВАТЬСЯ—забясьпечвацца, харчавацца.
ДОГАДКА—дагадка.
ДОГАДЛИВЫЙ—цямлівы, дагадлівы.
ДОГАДЛИВОСТЬ—цямлівасьць, дагадлівасьць.
ДОГАДЫВАТЬСЯ—дагадвацца.
ДОГОВОР—умова, дагавор.
ДОГОНЯТЬ, ДОГНАТЬ—даганяць, дагнаць; наганяць, нагнаць.
ДОЖДЬ—дождж.
ДОЖИДАТЬСЯ—чакаць.
ДОЖИМАТЬ ЗАТВОР—даціскаць замок.
ДОЗА—доза.
ДОЗВОЛЕНИЕ—дазвол, дазваленьне.
ДОЗНАВАТЬСЯ—дэведвацца, дазнавацца.
ДОЗНАНИЕ—дазнаньне.
ДОЗОР—дазор.
ДОЗОР КАРАУЛЬНЫЙ—дазор каравульны.
ДОК (мор.)—док.
ДОКАЗАТЕЛЬСТВО—довад, доказ.
ДОКЛАД—даклад, справаздача.
ДОКЛАДЫВАТЬ—дакладваць.

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА —дакладная запіска.

ДОКТОР — доктар (вучоная ступень).

ДОКУМЕНТ—дакумэнт.

ДОКУМЕНТЫ ПРОЕЗДНЫЕ -дарожныя дакумэнты.

ДОЛГ—абавязак, павіннасьць, доўг.

ДОЛГОВРЕМЕННЫЙ — доўгачасны.

ДОЛГОСРОЧНЫЙ—доўгатэрміновы.

ДОЛГОТА—даўжыня.

ДОЛЕТАТЬ—далятаць.

ДОЛЖЕН — павінен, мусіць.

ДОЛЖНО — павінна, мусіць.

ДОЛЖНОСТНОЙ — службовы.

ДОЛЖНОСТНОЕ ЛИЦО —службовая асоба.

ДОЛЖНОСТНОЕ ПРЕСТУПЛЕНИЕ — службовае злачынства.

ДОЛЖНОСТЬ—пасада.

ДОЛЖНЫЙ—павінны.

ДОЛЖНЫЙ ДОКУМЕНТ —належны дакумэнт.

ДОЛИНА—даліна.

ДОЛОЖИТЬ—дакласьці.

ДОЛОЙ—далоў.

ДОЛОТО—долата.

ДОЛЫ ШТЫКА (стр) — жалабкі штыха.

ДОМ—дом, хата.

ДОМ КРАСНОЙ АРМИИ —дом чырвонай арміі.

ДОМАШНИЙ АРЕСТ — хатні арышт.

ДОМАШНИЙ РАСХОД ЛЮДЕЙ—дамашні расход людзей.

ДОМКРАТ—дамкрат.

ДОМОГАТЕЛЬСТВО — дамаганьне.

ДОМОГАТЬСЯ — дамагацца.

ДОМОЙ—дамоў, дадому.

ДОНЕСЕНИЕ — данясеньне.

ДОНОСИТЬ — даносіць, паведамляць.

ДОННАЯ, - ДОНЬЕВАЯ ВТУЛКА — донная утулка.

ДОНОС—удаваньне.

ДОНОСЧИК—удавальнік.

ДОНЫШКО—донца.

ДО ОТКАЗА—да канца.

ДОПИСЫВАТЬ — дапісваць.

ДОПЛАТА—даплата.

ДОПОЛНЕНИЕ — дапаўненьне, дадатак.

ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ — дадатковы.

ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ ЗАРЯД (арт) — дадатковы набой.
ДОПРАШИВАТЬ — дапытваць
ДОПРОС — допыт.
ДОПРИЗЫВНИК — дапрызыўнік.
ДОПУСКАТЬ — дапушчаць.
ДОПУЩЕНИЕ — дапушчэньне.
ДОПУСК — допуск.
ДОРЕВОЛЮЦИОННЫЙ — дарэвалюцыйны.
ДОРОГА — дарога, шлях.
ДОРОГА ЖЕЛЕЗНАЯ — чыгунка.
ДОРОГА ГРУНТОВАЯ — дарога грунтавая.
ДОРОГА ШОССЕЙНАЯ — шаша.
ДОРОГА ПОЧТОВАЯ — шлях, гасьцінец.
ДОРОГА ПРОСЁЛОЧНАЯ — дарога вясковая.
ДОРОГА ЛЕТНЯЯ — летнік.
ДОРОГА ЗИМНЯЯ — зімнік.
ДОРОЖКИ ВЫПУКЛЫЕ (стр) — выгнутыя дарожкі.
ДОРОЖКА ШОМПОЛЬНАЯ — штэмпельная дарожка.
ДОРОЖНЫЙ — падарожны.
ДОСКА — дошка.
ДОСЛОВНЫЙ — даслоўны, літаральны.
ДОСМОТР — дагляд.
ДОСМАТРИВАТЬ — даглядаць.
ДОСРОЧНЫЙ — датэрміновы.
ДОСТАВАТЬ — даставаць.
ДОСТАВКА — дастаўка.
ДОСТАВЛЯТЬ — дастаўляць.
ДОСТАТОЧНО — даволі.
ДОСТАТОЧНЫЙ — здавальняючы.
ДОСТИГАТЬ — дасягаць.
ДОСТИГНУТЬ — дасягнуць.
ДОСТИЖЕНИЕ — дасяг, дасягненьне.
ДОСТИЖИМЫЙ — досяжны, магчымы.
ДОСТОВЕРНОСТЬ — пэўнасьць.
ДОСТОВЕРНО — пэўна.
ДОСТОВЕРНЫЙ — пэўны.
ДОСТОИНСТВО — вартасьць (рэчы) годнасьць (чалавека).
ДОСТОЙНЫЙ — варты, годны.
ДОСТРАИВАТЬ, — РОИТЬ — дабудоўваць, — ваць.

ДОСТРЕЛИВАТЬ — дастрэльваць.
ДОСТРЕЛКА—дастрэлка
ДОСТУП—доступ.
ДОСЫЛАНИЕ — дасыланьне.
ДОСЫЛАТЬ (патрон) — дасылаць.
ДОСЫЛАТЕЛЬ (стр.) — дасылач.
ДОСЯГАЕМОСТЬ — дасяжнасьць.
ДОТАСКИВАТЬ,-ЩИТЬ —дацягваць,—гнуць.
ДОТАЛКИВАТЬ, ДОТОЛКНУТЬ — дапіхаць, дапхнуць.
ДОТЛА — дашчэнту, датла.
ДРАКА—бойка.
ДРЕБЕЗЖАНИЕ—бражджаньне, дрынчэньне.
ДРЕБЕЗЖАТЬ — бражджаць, дрынчэць.
ДРЕВЕСНЫЙ—дрэўны.
ДРЕВКО—дрэўца.
ДРЕДНОУТ (мор.) — дрэдноут.
ДРЕНАЖНАЯ КАНАВА (в.-инж) — дрэнажная канава.
ДРОБИНА,-НКА — шраціна,-нка.
ДРОБЬ—1) шрот; 2) дроб (мат).
ДРОВА—дровы.
ДРОГНУТЬ — уздрыгнуцца.
ДРОЖАНИЕ — дрыжаньне.
ДРОЖАТЬ—дрыжэць.
ДРУГ—сябра, сябар.
ДРУЖБА — сяброўства, дружба.
ДРУЖНЫЙ—дружны.
ДУБ—дуб.
ДУБЛИКАТ—дублікат.
ДУГА ПОДЪЕМНОГО МЕХАНИЗМА (стр.)— дуга подымальнага мэханізму.
ДУГИ СТАНКА — дугі станка.
ДУЖКА—дужка.
ДУЛО (стр.)—дула.
ДУЛЬНАЯ НАКЛАДКА (стр.) — дулавая накладка.
ДУЛЬНАЯ ЧАСТЬ (стр.) —дулавая часьць.
ДУЛЬЦЕ (стр.)—дульца.
ДУЛЬЦЕ ГИЛЬЗЫ ПАТРОНА (стр.) — дульца ладунку патрона.
ДУХОТА—духата.
ДУШНО—душна.
ДУЭЛЬ (арт.) — паядынак.
ДЫМНЫЙ — дымны, курны.

ДЫМОВАЯ ЗАВЕСА (в-инж) — дымавая заслона.

ДЫРА—дзірка.

ДЫХАНИЕ—дыханьне.

ДЫХАТЕЛЬНЫЙ — дыхальны.

ДЫШАТЬ—дыхаць.

ДЫШЛО—дышаль.

ДЫШЛОВАЯ ПОДСТАВКА — дышлявая падпірка.

ДЫШЛОВОЙ РЕМЕНЬ—дышлявы рамень.

ДЮЙМ—цаль.

ДЮЙМОВЫЙ—цалёвы.

ДЮНА—выдма.

# Е

ЕГЕРЬ—егер.

ЕДА—яда, харч.

ЕДВА—ледзь, ледзьва.

ЕДИНЕНИЕ—яднаньне.

ЕДИНИЦА—адзінка.

„ БОЕВАЯ — адзінка баявая.

ЕДИНИЧНО — паасобку.

ЕДИНИЧНЫЙ — адзіночны.

ЕДИНОБОРЕЦ—паядыншчык.

ЕДИНОБОРСТВО — паядынак.

ЕДИНОВЛАСТИЕ—аднаўладзтва.

ЕДИНОВЛАСТНЫЙ—аднаўладны.

ЕДИНОВРЕМЕННО — адначасна.

ЕДИНОВРЕМЕННЫЙ — адначасны.

ЕДИНОГЛАСНЫЙ—аднагалосны.

ЕДИНОДУШИЕ — аднадушнасьць.

ЕДИНОКРОВНЫЙ—адзінакроўны.

ЕДИНОЛИЧНО — адзін асабіста.

ЕДИНОМЫСЛИЕ —аднадумства.

ЕДИНОМЫШЛЕННИК—аднадумец.

ЕДИНОНАЧАЛИЕ—аднаначальнасьць.

ЕДИНООБРАЗИЕ—аднастайнасьць.

ЕДИНООБРАЗНО—аднастайна.

ЕДИНООБРАЗНЫЙ—аднастайны, аднакавы.

ЕДИНСТВЕННЫЙ — адзіны.

ЕДИНСТВО—адзінства.

ЕДИНЫЙ—адзіны.

ЕДКИЙ—1) едки; 2) колкі.

ЕДОК—ядок.

ЁЖ—вожык.

ЕЖИ ПРОВОЛОЧНЫЕ — вожыкі драцяныя.

ЕЖЕГОДНО—штогод.
ЕЖЕГОДНЫЙ — штогодні.
ЕЖЕДНЕВНО — штодня.
ЕЖЕДНЕВНЫЙ — штодзенны.
ЕЖЕМЕСЯЧНО — штомесяц.
ЕЖЕМЕСЯЧНЫЙ — штомесячны.
ЕЖЕМИНУТНЫИ — штомінутны.
ЕЖЕНЕДЕЛЬНО — штотыдзень.
ЕЖЕНЕДЕЛЬНЫЙ — штотыднёвы.
ЕЖЕНОЩНО — штоноч.
ЕЖЕНОЩНЫЙ — штоночны.
ЕЖЕСЕКУНДНО — штосэкунду.
ЕЖЕСЕКУНДНЫЙ — штосэкундны.
ЕЖЕЧАСНО — штогадзіну.
ЕЖЕЧАСНЫЙ—штогадзінны.
ЕЗДА—язда.
ЕЗДА ВЕРХОВАЯ—верхавая язда.
ЕЗДА СМЕНОЮ — язда зьменамі.
ЕЗДИТЬ—езьдзіць.
ЕЗДОВОЙ—ездавы.
ЕЗДОК—яздок.
ЕЛЕ—ледзь.
ЁМКИЙ—ёмісты.
ЁМКОСТЬ—ёмістасьць.
ЕСЛИ—калі.
ЕСЛИ-БЫ—калі-б.
ЕСТЕСТВЕННО — натуральна.
ЕСТЕСТВЕННОСТЬ—натуральнасьць.
ЕСТЕСТВЕННЫЙ—натуральны.
ЕСТЕСТВЕННОЕ МАСКИРОВАНИЕ — натуральнае маскаваньне.
ЕСТЕСТВЕННОЕ РАССЕИВАНИЕ ВЫСТРЕЛОВ—нармальнае рассяваньне стрэлаў.
ЕСТЬ—1) ёсьць; 2) есьці.
ЕФЕС—дзяржаньне.
ЕХАТЬ—ехаць.
ЕЩЕ—яшчэ.

## Ж

ЖАДНО—прагавіта.
ЖАДНОСТЬ — прагавітасьць.
ЖАДНЫЙ—прагавіты.
ЖАЖДА—смага.
ЖАЖДАТЬ — жадаць, прагнуць.
ЖАЛЕТЬ—шкадаваць.
ЖАЛКИЙ—мізэрны.
ЖАЛКО — шкада, жаль.

ЖАЛО—джала.
ЖАЛОБА — скарга, жальба.
ЖАЛОВАНЬЕ—пэнсія.
ЖАЛОВАТЬСЯ — скардзіцца, жаліцца.
ЖАЛОСТЬ—жаль.
ЖАР—сьпёка.
ЖАРА — сьпякота, гарачыня.
ЖАРЕННЫЙ — смажаны.
ЖАРИТЬ—смажыць.
ЖАРКИЙ—гарачы.
ЖАРКО—горача.
ЖАРКОЕ—смажаніна.
ЖАТЬ—ціснуць, ціскаць.
ЖГУТ—скрутак.
ЖГУЧИЙ—пякучы.
ЖДАТЬ—чакаць.
ЖЕЗЛ—жазло.
ЖЕЛАНИЕ — жаданьне.
ПО СОБСТВЕННОМУ ЖЕЛАНИЮ—з уласнага жаданьня.
ЖЕЛАТЕЛЬНО — пажадана.
ЖЕЛАТЕЛЬНЫЙ—пажаданы.
ЖЕЛАТИН—жалатын.
ЖЕЛАТЬ—хацець.
ЖЕЛЕЗА—залоза.
ЖЕЛЕЗИСТЫЙ—1) жалезісты; 2) залозісты.
ЖЕЛЕЗНАЯ ДОРОГА — чыгунка.
ЖЕЛЕЗНАЯ ПОЛОСА — штаба.
ЖЕЛЕЗНОДОРОЖНИК—чыгуначнік.
ЖЕЛЕЗНОДОРОЖНЫЙ —чыгуначны.
ЖЕЛЕЗНЫЙ — жалезны.
ЖЕЛЕЗНЫЙ КУПОРОС —(в.-инж.) — жалезны купарвас.
ЖЕЛЕЗНЫЙ РУДНИК—жалезная рудня.
ЖЕЛЕЗО ЛИСТОВОЕ — ліставое жалеза.
ЖЕЛЕЗО-БЕТОН(в.-инж) —жалеза-бэтон.
ЖЕЛОБ—жолаб, раўчок.
ЖЕЛОБ ЦЕВЬЯ—жолаб цаўя.
ЖЕЛОБОК (стр. арт.)—жалабок.
ЖЕЛТАЯ ВИРИДОВАЯ (краска) — зялянявa-жоўтая фарба.
ЖЕЛТАЯ ОХРА (в.-инж.) —жоўтая вохра.
ЖЕЛТУХА (бол.)—жаўтачка.
ЖЕЛТУШНЫЙ —жаўтушны.
ЖЕЛТЫЙ—жоўты,
ЖЕЛТЫЙ КАДМИЙ (в.-инж.)—жоўты кадмі.
ЖЕЛУДОК—кіндзюк.
ЖЕЛЧНЫЙ—жоўчны.
ЖЕЛЧЬ—жоўць.
ЖЕНСКИЙ — жаночы, жаноцкі.

ЖЕНЩИНА—жанчына.
ЖЕРЕБАЯ — жарэбная (кабыла).
ЖЕРЕБЕЦ—жарабец.
ЖЕРЕБЬЕВКА—лёсаваньне.
ЖЕРЛО—жарало.
ЖЕРТВА—ахвяра.
ЖЕСТОКИЙ—жорсткі.
ЖЕСТОКО—жорстка.
ЖЕСТОКОСТЬ — жорсткасьць.
ЖЕСТЫ—мігі.
ЖЕСТЬ—бляха.
ЖЕСТЯНИК—бляхар.
ЖЕСТЯНКА—бляшанка.
ЖЕСТЯНЫЙ—бляшаны.
ЖЕТОН—жатон.
ЖЕЧЬ — паліць, пячы (аб сонцы).
ЖЖЕНАЯ КОСТЬ (в.-инж.)—паленая косьць.
ЖЖЕНАЯ УМБРА (в.-инж.)—паленая умбра.
ЖЖЕНЫЙ—палены.
ЖИВАЯ ИЗГОРОДЬ—жываплот.
ЖИВНОСТЬ—жыўнасьць
ЖИВО—жвава, спрытна.
ЖИВОЙ—1) жывы; 2) жвавы, спрытны.
ЖИВОТ—жывот.
ЖИВОТНОЕ—жывёла.
ЖИВУЧИЙ—жывучы.
ЖЫВЬЕМ—жыўцом.
ЖИДКИЙ—вадкі.
ЖИДКОСТЬ—вадкасьць, жыжка.

ЖИЖА—жыжка.
ЖЫЗНЕННЫЙ жыцьцёвы.
ЖИЗНЬ - жыцьцё.
ЖИЛА—жыла.
ЖИЛЕЦ—жылец.
ЖИЛИЩЕ—жыльлё.
ЖИЛИЩНЫЙ — кватэрны.
ЖИЛОЙ—жылы.
ЖИР—тлустасьць.
„ БАРАНИЙ—лой.
„ ГУСИНЫЙ — шмалец.
ЖИРЕТЬ—тлусьцець, сыцець.
ЖИРНЫЙ—тлусты, сыты.
ЖЫТЕЛЬ—насельнік.
ЖИТЕЛЬСТВО—пражываньне; ВИД НА ЖИТЕЛЬСТВО—дакумэнт на пражываньне.
ЖИТЕЛЬСТВОВАТЬ—пражываць.
ЖМЫХИ—жмакі.
ЖОЛОБ (стр. арт.)—жолаб.
ЖУРНАЛ (канц.)—журнал.
ЖУРНАЛ ВЗЫСКАНИЙ—карны журнал.
ЖУРНАЛ ВХОДЯЩИХ И ИСХОДЯЩИХ БУМАГ—журнал атрыманых і адасланых папер.

ЖУРНАЛ (вообще) — часопіс.

ЖУРНАЛИСТ — журналісты.

ЖУРНАЛЬНЫЙ — журнальны.

ЖЮРИ—прысудная камісія.

# З

ЗААРЕНДОВАТЬ — заарандаваць.

ЗААРТАЧИТЬСЯ – занаравіцца.

ЗАБАСТОВАТЬ–забаставаць.

ЗАБАСТОВКА — забастоўка.

ЗАБАСТОВОЧНЫЙ — забастовачны.

ЗАБАСТОВЩИК — забастоўшчык.

ЗАБЕГАТЬ—забегаць.

ЗАБЕЖАТЬ, ЗАБЕЧЬ — забягаць, забегчы.

ЗАБЕГЛЫЙ–прыблудны

ЗАБИВАТЬ, ЗАБИТЬ — забіваць, забіць.

ЗАБИТЬ ТРЕВОГУ — забіць трывогу.

ЗАБИРАТЬ, ЗАБРАТЬ— забіраць, забраць.

ЗАБИНТОВАТЬ — забінтаваць.

ЗАБЛУДИТЬСЯ—заблудзіць.

ЗАБЛУЖДАТЬСЯ— памыляцца.

ЗАБЛУЖДЕНИЕ — памылка.

ЗАБОИНА(стр.)—забоіна.

ЗАБОЛАЧИВАНИЕ (в.-инж.)—забалочваньне.

ЗАБОЛАЧИВАТЬ — забалочваць.

ЗАБОЛЕВАНИЕ — хвароба.

ЗАБОЛЕВШИЙ — захварэлы.

ЗАБОЛЕВАТЬ, ЗАБОЛЕТЬ—хварэць, захварэць (на што).

ЗАБОР—плот.

ЗАБОРНАЯ КНИЖКА — кніжка для набору.

ЗАБОТА—клопат.

ЗАБОТИТЬСЯ — клапаціцца.

ЗАБОТЛИВОСТЬ–руплівасьць, клапатлівасьць.

ЗАБРАКОВАТЬ — забракаваць.

ЗАБРАКОВОЧНЫЙ — бракавальны.

ЗАБРАСЫВАТЬ, ЗАБРОСИТЬ — закідаць, закінуць.
ЗАБРОНИРАВАННЫЙ— забясъпечаны (запас).
ЗАБРОНИРОВАТЬ— забясьпечыць.
ЗАБЫВАТЬ, ЗАБЫТЬ— забывацца, забыцца.
ЗАВАРИВАТЬ — запарваць.
ЗАВАРКА—запара.
ЗАВЕДЕНИЕ — установа.
ЗАВЕДЕНИЕ ВОЕННО-ЛЕЧЕБНОЕ - вайсковалекавая ўстанова.
ЗАВЕДЕНИЕ ВОЕННО-УЧЕБНОЕ — вайсковавучэбная установа.
ЗАВЕДОМО – заведама.
ЗАВЕДОМЫЙ — ведамы, даведзены.
ЗАВЕДУЮЩИЙ,-ДЫВАЮЩИЙ—загадчык.
ЗАВЕДЫВАЮЩИЙ ОРУЖИЕМ—загадчык зброі
ЗАВЕДЫВАЮЩИЙ ХОЗЯЙСТВОМ—загадчык гаспадаркі.
ЗАВЕДЫВАТЬ — загадваць (чым).
ЗАВЕРБОВАННЫЙ — завербаваны.
ЗАВЕРБОВАТЬ — завербаваць.
ЗАВЕРЕННЫЙ—засьведчаны.
ЗАВЕРИТЬ — засьведчыць.
ЗАВЕРШАТЬ,-ШИТЬ — закончваць, закончыць.
ЗАВЕРШЕНИЕ (боя) — заканчэньне.
ЗАВЕРШЕННЫЙ–закончаны.
ЗАВЁРТКА (арт.) — закрутка.
ЗАВЁРТЫВАТЬ, ЗАВЕРТЕТЬ — закручваць, закруціць, заварочваць, завярцець.
ЗАВЕСА—заслона.
ЗАВИНТОВАННЫЙ — нашрубаваны.
ЗАВИНТОВАННОЕ ГНЕЗДО (арт.)—нашрубаванае гняздо.
ЗАВИНТОВАННЫЙ КОНЕЦ (стр) —нашрубаваны канец.
ЗАВИНЧИВАТЬ, -НТИТЬ —зашрубоўваць,зашрубаваць.
ЗАВИСЕТЬ—залежаць.
ЗАВИСИМОСТЬ — залежнасьць.
ЗАВИСИМЫЙ—залежны.
ЗАВИСЯЩИЙ—які залежыць (ад каго).
ЗАВЛАДЕНИЕ — заўладаньне.
ЗАВЛАДЕТЬ – заўладаць

ЗАВОД—фабрыка, завод.
ЗАВОД КИРПИЧНЫЙ—цагельня.
ЗАВОД КОЖЕВЕННЫЙ—гарбарня.
ЗАВОД КОНСКИЙ—конскі завод.
ЗАВОД ЛЕСОПИЛЬНЫЙ—лесапільня.
ЗАВОД ЛИТЕЙНЫЙ—гісэрня.
ЗАВОД МЕТАЛЛОПЛАВИЛЬНЫЙ—гамарня.
ЗАВОД МЫЛОВАРЕННЫЙ—мылаварня.
ЗАВОД ОРУДИЙНЫЙ—гарматня.
ЗАВОД ОРУЖЕЙНЫЙ—збройня.
ЗАВОД ПОРОХОВОЙ—парахоўня.
ЗАВОД СТЕКОЛЬННЫЙ—гута.
ЗАВОД ТРУБОЧНЫЙ—трубачная фабрыка.
ЗАВОДНАЯ ЛОШАДЬ (арт)—запасны конь.
ЗАВОДСКИЙ—фабрычны, заводзкі.
ЗАВОДСКИЙ РАБОЧИЙ—работнік фабрыкі.
ЗАВОДЬ—плёс.
ЗАВОЕВАНИЕ—заваёва.
ЗАВОЕВАТЕЛЬ—заваёўнік.
ЗАВОЕВАТЬ—заваяваць.
ЗАВОРОТ—заварат.
ЗАВТРАК—сьнеданьне.
ЗАВТРАКАТЬ—сьнедаць.
ЗАВТРАШНИЙ—заўтрашні.
ЗАВЯЗКА (боя)—завязка.
ЗАВЯЗНУТЬ—загрузнуць; увязнуць.
ЗАГИБ (стр.)—загіб.
ЗАГИБИНА—загібіна.
ЗАГИБАТЬ, ЗАГНУТЬ—загінаць, загнуць.
ЗАГИБЫ БОЕВОЙ ЛИЧИНКИ (стр)—загібы баявічка.
ЗАГЛАВИЕ—загаловак.
ЗАГЛАВНЫЙ—загалоўны.
ЗАГНИВАНИЕ—загніваньне.
ЗАГНИВАТЬ, ЗАГНИТЬ—загніваць, загніць.
ЗАГОВОР—змова.
ЗАГОВОРЩИК—змоўнік
ЗАГОРАЖИВАТЬ—загароджваць, ставіць загароду.
ЗАГОРАТЬ, -ТЬСЯ—запальвацца, запаліцца, загарвацца, загарэцца.
ЗАГОРЕТЬ (на солнце)—загарэць.
ЗАГОРОДКА—загарадка.
ЗАГОРОДНЫЙ—загарадны.

ЗАГОТОВКА,-ВЛЕНИЕ—загатоўка.

ЗАГОТОВЛЕННЫЙ — загатаваны.

ЗАГОТОВЛЯТЬ,-ВИТЬ—загатаўляць, загатаваць

ЗАГОТОВОЧНЫЙ,-ВИТЕЛЬНЫЙ — загатавальны.

ЗАГОТОВЩИК—загатоўнік.

ЗАГРАДИТЕЛЬНЫЙ ОГОНЬ — заслонны агонь.

ЗАГРАЖДАТЬ, ЗАГРАДИТЬ — загароджваць, загарадзіць (подступ', засланяць, заставіць.

ЗАГРАЖДЕНИЕ — загарода.

ЗАГРАНИЦА—заграніца.

ЗАГРАНИЧНЫЙ—замежны, заграпічны, закардонны.

ЗАГРЕМЕТЬ—1) о громе — загрымець, 2) о телеге—затарахцець.

ЗАГРЫВОК—загрывак.

ЗАГРЯЗНЕНИЕ—забруджаньне.

ЗАГРЯЗНЯТЬ-НИТЬ—забруджваць, забрудзіць.

ЗАД—азадак, зад.

ЗАДАВАТЬ, ЗАДАТЬ—задаваць, задаць.

ЗАДАНИЕ—заданьне.

ЗАДАННЫЙ—зададзены.

ЗАДАТОК—задатак.

ЗАДАТОЧНЫЙ — задаткавы.

ЗАДАЧА — задача, заданьне.

ЗАДВИГАТЬ, ЗАДВИНУТЬ — засоўваць, засунуць.

ЗАДВИЖКА (стр. арт.)—засаўка.

ЗАДВИЖНОЙ ЩИТОК (арт).—засоўны шчыток.

ЗАДЕРЖАНИЕ — затрыманьне.

ЗАДЕРЖАННЫЙ — затрыманы.

ЗАДЕРЖКА (стр )— задзержка.

ЗАДЕРЖИВАТЬ - ЖАТЬ —затрымліваць, затрымаць

ЗАДИРИНА—задзірына.

ЗАДНЕЕ ОТВЕРСТИЕ СТВОЛА (арт.)—задняя дзірка рулі.

ЗАДНИЙ ХОД (арт.) — задні ход.

ЗАДНИК—заднік.

ЗАДОЛЖАТЬ—завінавацца.

ЗАДОР—заўзятасьць.

ЗАДЫШКА—задышка.

ЗАДЫХАТЬСЯ, ЗАДОХНУТЬСЯ — затыхацца, затохнуцца.

ЗАЕЗД—заезд.
ЗАЕЗЖИЙ—заежджы.
ЗАЁМ—пазыка.
ЗАЁМНЫЙ — пазычковы.
ЗАЁМЩИК—пазычальнік
ЗАЖИВАНИЕ—загаеньне (раны).
ЗАЖИВАТЬ, ЗАЖИТЬ (о ране) — загойвацца, загаіцца.
ЗАЖИГАНИЕ — запальваньне.
ЗАЖИГАТЕЛЬНЫЙ — запальны.
ЗАЖИГАТЬ, ЗАЖЕЧЬ— запальваць, запаліць.
ЗАЖИМ—заціск.
ЗАЖИМАТЬ—заціскаць.
ЗАЖИМНЫЙ—заціскны.
ЗАЖИМНАЯ ГАЙКА (стр.) — заціскная мутэрка.
ЗАЖИМНАЯ МАТКА (арт.)—заціскная матка.
ЗАЖИМНОЕ КОЛЬЦО (арт.)—заціскное колца.
ЗАЖИМНОЕ ПРИСПОСОБЛЕНИЕ (стр.)— заціскная прылада.
ЗАЖИМНЫЕ КУЛАКИ (арт.)—заціскныя кулакі.
ЗАЖМУРИВАТЬ ГЛАЗА —зажмурваць вочы.
ЗАЗЕМЛЕНИЕ (св.)— зазямленьне.
ЗАЗОР (стр.)—празор.
ЗАЗУБРИНА (арт., стр.) —шчарбіна.
ЗАЗУБРИСТЫЙ — шчарбаты.
ЗАИГРИВАТЬ (на муз. инструменте) — заігрываць.
ЗАИМООБРАЗНО — у пазыку.
ЗАИМООБРАЗНЫЙ— пазычковы.
ЗАИСКИВАТЬ—забягаць (ласкі).
ЗАКАБАЛИТЬ — заняволіць.
ЗАКАЗ—заказ.
ЗАКАЗНОЙ—заказны.
ЗАКАЗЫВАТЬ, -ЗАТЬ— заказваць, заказаць.
ЗАКАЛ—гарт.
ЗАКАЛЕННЫЙ — загартаваны.
ЗАКАЛИВАНИЕ—гартаваньне.
ЗАКАЛИВАТЬ, - ЛИТЬ— гартаваць, загартаваць.
ЗАКАЛКА—гарт, гартаваньне.
ЗАКАНЧИВАТЬ, ЗАКОНЧИТЬ — закончваць, закончыць, канчаць, скончыць.
ЗАКВАСИТЬ—заквасіць.
ЗАКВАСКА—рошчына.
ЗАКЛАДКА 1) закладка, закладзіны, 2) В КОНЮШНЕ—завала,
ЗАКЛАД—застава.

ЗАКЛАДЫВАТЬ—закладаць.
ЗАКЛАДЫВАТЬ ФУГАС —падкладаць, закладваць фугас.
ЗАКЛЕПКА (стр.)—заклёпка.
ЗАКЛИНЕНИЕ—закліназаньне.
ЗАКЛЮЧЕНИЕ — заключэньне, вывад.
ЗАКЛЮЧЕНИЕ МИРА — замірэньне.
ЗАКЛЮЧЕНИЕ ПОД СТРАЖУ—зняволеньне.
ЗАКЛЮЧЕННЫЙ — вязень, зьняволены.
ЗАКЛЮЧАТЬ, ЗАКЛЮЧИТЬ 1) заключаць, заключыць; 2) МИР—замірацца, замірыцца; 3) ПОД СТРАЖУ — зьнявольваць, зьняволіць; 4) УСЛОВИЕ—складаць, скласьці ўмову, рабіць, зрабіць умову.
ЗАКОВАННЫЙ—закуты.
ЗАКОВАТЬ—закуць, закаваць.
ЗАКОЛОТЬ (штыком) — закалоць.
ЗАКОЛОТИТЬ—забіць.
ЗАКОН—закон.
ЗАКОННО—законна.
ЗАКОННОСТЬ — законнасьць.
ЗАКОННЫЙ—законны.
ЗАКОНОДАТЕЛЬНЫЙ—законадальны.
ЗАКОНОДАТЕЛЬНОЕ СОБРАНИЕ—законадальны сойм.
ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВО—законадаўства.
ЗАКОНОПОЛОЖЕНИЕ—устава.
ЗАКОНОПРОЕКТ — законапраэкт.
ЗАКРАИНА — закраіна (ладунку).
ЗАКРЕПЛЕНИЕ (позиции) — замацаваньне.
ЗАКРЕПЛЯТЬ, -ПИТЬ—замацоўваць, замацаваць.
ЗАКРЕПЛЯЮЩИЙ БОЛТ (стр.) — замацавальны шворан.
ЗАКРОМ—засек.
ЗАКРЫВАНИЕ — засланеньне, закрываньне.
ЗАКРЫВАТЬ, ЗАКРЫТЬ —1) засланяць, засланіць; 2) закрываць, закрыць; 3) зачыняць, зачыніць.
ЗАКРЫТАЯ ПОЗИЦИЯ—засланёная пазыцыя.
ЗАКРЫТИЕ—заслона.
ЗАКРЫТЬ СОБРАНИЕ—закрыць сход.

ЗАКРЫТЬ ПРЕДОХРАНИТЕЛЬ — зачыніць забясьпечнік.
ЗАКРЫШКА—закрыўка.
ЗАКУПАТЬ, ЗАКУПИТЬ —закупляць, закупіць.
ЗАКУПКА—закуп.
ЗАКУПОРИВАТЬ — закаркоўваць.
ЗАКУПОРКА — закаркаваньне.
ЗАКУПЩИК — закупнік.
ЗАЛ (собраний)—заля.
ЗАЛЕГАТЬ, ЗАЛЕЧЬ — залягаць, залегчы.
ЗАЛЕЖАЛЫЙ — залежаны.
ЗАЛЕЖИ—паклады.
ЗАЛЕЗАТЬ, ЗАЛЕЗТЬ— залазіць, залезьці.
ЗАЛЕТАТЬ, ЗАЛЕТЕТЬ —залятаць, заляцець.
ЗАЛЕЧИВАНИЕ — залечваньне, загаеньне (раны).
ЗАЛЕЧИТЬ — залячыць, загаіць (рану).
ЗАЛИВ—затока.
ЗАЛИВАТЬ, ЗАЛИТЬ — заліваць, заліць.
ЗАЛИВНОЙ ЛУГ — поплаў.
ЗАЛОГ (юр.) — застава, заклад.
ЗАЛОЖЕНИЕ (в.-инж.)— закладаньне.
ЗАЛОЖИТЬ — заставіць, закласьці.
ЗАЛОЖНИК—закладнік.
ЗАЛП — залп; ДАТЬ ЗАЛП — выпаліць залпам.
ЗАЛПОВЫЙ (огонь) — залпавы.
ЗАМАЗКА (оконная)—кіт
ЗАМАЗЫВАТЬ, ЗАМАЗАТЬ (оконной замазкой) — закітоўваць, закітаваць.
ЗАМАНИВАТЬ, ЗАМАНИТЬ — завабліваць, завабіць.
ЗАМАСКИРОВАННЫЙ— замаскаваны.
ЗАМАСКИРОВАТЬ, -ТЬСЯ — замаскаваць,-цца.
ЗАМАХИВАТЬСЯ, ЗАМАХНУТЬСЯ—замахвацца, замахнуцца.
ЗАМАШКА —замашка.
ЗАМЕДЛЕНИЕ ДВИЖЕНИЯ — зьмяншэньне руху.
ЗАМЕДЛЕННЫЙ ХОД— зьменшаны ход.
ЗАМЕДЛИТЬ ДВИЖЕНИЕ—зьменшыць рух.
ЗАМЕДЛИТЬСЯ —затрымацца.
ЗАМЕДЛИТЕЛЬ (арт. стр.)—затрымач.
ЗАМЕЛЬКАТЬ — замільгаць.

ЗАМЕНА—замена; В ЗАМЕНУ — на адмен, замест.
ЗАМЕНЯТЬ, ЗАМЕНИТЬ —замяняць, замяніць; заступаць, заступіць.
ЗАМЕРЗАТЬ—замярзаць.
ЗАМЕРЗШИЙ—зьмерзлы
ЗАМЕСТИТЕЛЬ—намесьнік.
ЗАМЕТКА — адзнака; нататка (у кнізе); допіска (у часопісу).
ЗАМЕТИТЬ—заўважыць.
ЗАМЕТНО—значна.
ЗАМЕТНЫЙ—заметны.
ЗАМЕЧАНИЕ — увага, заўважаньне.
ЗАМЕЧАТЕЛЬНЫЙ— выдатны.
ЗАМЕШАТЕЛЬСТВО (в рядах армии)—замяшаньне.
ЗАМЕЩАТЬ, ЗАМЕСТИТЬ—заступаць, заступіць (месца каго).
ЗАМЕЩЕНИЕ—заступаньне.
ЗАМИНКА—замін.
ЗАМКНУТОСТЬ—замкнёнасьць.
ЗАМКНУТЫЙ — замкнёны, замкнуты.
ЗАМКОВОЕ КОЛЬЦО (арт.)—колца замка.
ЗАМКОВЫЙ—замковы.
ЗАМОК (стр., арт.)— замок.
ЗАМОКАТЬ, ЗАМОКНУТЬ—мокнуць, замокнуць.
ЗАМОЧНЫЙ МЕХАНИЗМ (стр.) — замочны мэханізм.
ЗАМША—замша.
ЗАМЫКАТЕЛЬ (стр.)— замыкальнік.
ЗАМЫКАТЬ, ЗАМКНУТЬ замыкаць, замкнуць.
ЗАМЫКАЮЩИЙ—замыкальны.
ЗАМЫКАЮЩАЯ ШПИЛЬКА (стр.)—замыкальная шпілька.
ЗАНАВЕС—заслона.
ЗАМЫСЕЛ—замысел.
ЗАНИМАТЬ, ЗАНЯТЬ— 1) ПОЗИЦИЮ—займаць, заняць; 2) ДЕНЬГИ— пазычаць, пазычыць.
ЗАНИМАТЬ ПО ФРОНТУ —займаць фронт.
ЗАНИМАТЬСЯ—займацца
ЗАНОЗА—стрэмка.
ЗАНОСИТЬ, ЗАНЕСТИ— занасіць, занесьці.
ЗАНОСИТЬ В КНИГУ— запісваць у кнігу.
ЗАНОСЫ СНЕЖНЫЕ— замеці.
ЗАНЯТИЕ—занятак.
ЗАНЯТИЕ ПОЗИЦИИ— займаньне пазыцыі.
ЗАНЯТЫЙ—заняты.
ЗАОДНО—разам.
ЗАОЧНО—завочна, заачы.

ЗАОЧНОЕ РЕШЕНИЕ — завочнае рашэньне.
ЗАПАД—захад.
ЗАПАДНЫЙ—заходні.
ЗАПАДНЯ—пастка.
ЗАПАЗДЫВАТЬ — пазьніцца
ЗАПАЛ 1) (стр.)—запальнік; 2) У ЛОШАДИ—дыхавіца.
ЗАПАЛЬНАЯ ЛОШАДЬ —дыхавічны конь.
ЗАПАЛЬЧИВО—апрыскліва.
ЗАПАЛЬЧИВОСТЬ — апрысклівасьць.
ЗАПАЛЬЧИВЫЙ—апрысклівы.
ЗАПАЛЬНАЯ ТРУБКА (арт., стр.)—запальная трубка.
ЗАПАЛЬНОЕ ОТВЕРСТВИЕ (стр.) – запальная дзіра.
ЗАПАРИТЬ — запарыть, спарыць.
ЗАПАС—запас.
ЗАПАСАТЬ, ЗАПАСТИ—запасаць, назапасіць.
ЗАПАСНАЯ СУМКА (стр.)—запасны ладуньнік.
ЗАПАСНАЯ ЧАСТЬ (арт. стр.) — запасная часьціна.
ЗАПАСНОЙ—запасны.
ЗАПЕВАЛА—запявала.
ЗАПЕТЬ — засьпяваць, запяяць.
ЗАПИРАТЕЛЬСТВО — запіраньне,выраканьне.
ЗАПИРАТ, ЗАПЕРЕТЬ—запіраць, заперці, замыкаць, замкнуць.
ЗАПИРАТЬСЯ В ВИНЕ—выракацца (ад віны).
ЗАПИСКА—запіска.
ЗАПИСКА ОБ АРЕСТОВАНИИ — запіска на арышт.
ЗАПИСКА ОБ ОСВОБОЖДЕНИИ ИЗ ПОД АРЕСТА—запіска на звальненьне з-пад арышту.
ЗАПИСКА ДОКЛАДНАЯ —дакладная запіска.
ЗАПИСНОЙ—запісны.
ЗАПИСЫВАТЬ — запісваць.
ЗАПИСЬ—запіс.
ЗАПЛАТА—латка.
ЗАПЛАТИТЬ — заплаціць.
ЗАПЛЕТАТЬ, ЗАПЛЕСТИ — заплятаць, заплесьці.
ЗАПЛЕЧНИК (стр.)—заплечнік.
ЗАПЛОМБИРОВАННЫЙ—заплёмбаваны.
ЗАМПЛОМБИРОВАТЬ — заплёмбаваць.
ЗАПОДОЗРИТЬ — западозрыць.

ЗАПОЗДАЛЫЙ, - ВШИЙ —спозьнены.
ЗАПОЗДАТЬ — спазьніцца.
ЗАПОР 1) У ДВЕРЕЙ— засаў, завала, замок.
2) ЖЕЛУДКА — запор.
ЗАПРАВИЛА—верхавод.
ЗАПРАВЛЯТЬ, ЗАПРАВИТЬ — 1) упраўляць, управіць; 2) кіраваць, арудаваць (справай).
ЗАПРЕССОВАННЫЙ ПОРОХОВОЙ СОСТАВ (арт.) запрасаваная парахавая матэрыя.
ЗАПРЕССОВАТЬ—запрасаваць.
ЗАПРЕТ,-ЩЕНИЕ—забарона.
ЗАПРЕТНЫЙ, - ЩЕННЫЙ—забаронены.
ЗАПРЕЩАТЬ — забараняць.
ЗАПРОДАЖА—запродаж.
ЗАПРОС— запытаньне, запрос (у цане).
ЗАПРУДА—грэбля, гаць.
ЗАПРУДИТЬ—загаціць.
ЗАПУГАТЬ-застрашыць, запужаць.
ЗАПУСКАТЬ, ЗАПУСТИТЬ—запушчаць, запусьціць.
ЗАПУЩЕНЬЕ — запушчэньне, занядбаньне.
ЗАПУТЫВАТЬ, - ТАТЬ— заблутваць, заблутаць.
ЗАПЫЛАТЬ — запалаць.
ЗАПЯТОК—запятак.
ЗАРАБАТЫВАТЬ— зарабляць.
ЗАРАБОТОК—заработак.
ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА— заработная плата.
ЗАРАЖАТЬ, ЗАРАЗИТЬ —заражаць, заразіць.
ЗАРАЖАТЬСЯ — заражацца (на што).
ЗАРАЖЕНИЕ — заражэньне.
ЗАРАЖЕНИЕ КРОВИ — заражэньне крыві.
ЗАРАЗА — зараза, пошасьць.
ЗАРАЗИТЕЛЬНЫЙ, ЗАРАЗНЫЙ — заразьлівы, заразны.
ЗАРАНЕЕ—загадзя.
ЗАРЕВО — зарава.
ЗАРЕЗКА — зарэз, заруб.
ЗАРЖАВЕЛЫЙ— іржавы
ЗАРЖАВЕТЬ — заіржавець.
ЗАРЖАТЬ—заіржаць.
ЗАРОСЛЬ—зарасьнік.
ЗАРУБАТЬ—засякаць.
ЗАРУБКА—зарубка.
ЗАРУБЦЕВАТЬ,-ТЬСЯ— зарубцаваць,-цца.
ЗАРУЧНОЕ ОРУЖИЕ— (стр.)—захоўная зброя.

ЗАРУЧАТЬСЯ, - ЧИТЬСЯ —заручацца, заручыцца
ЗАРЫВАТЬ, ЗАРЫТЬ— закопваць, закапаць.
ЗАРЯ—золак, зара, сьвітаньне.
ЗАРЯ УТРЕННЯЯ (сигнал)—зара ранічная.
ЗАРЯ ВЕЧЕРНЯЯ—зара вячэрняя.
ЗАРЯД (стр.)—набой.
ЗАРЯДНЫЙ ЯЩИК — набойная скрыня.
ЗАРЯЖАТЬ, ЗАРЯДИТЬ (ружье)—набіваць, набіць; ЗАРЯЖАЙ (ком.) —набівай.
ЗАРЯЖАЮЩИЙ (ружье чыр.)—набівальнік.
ЗАРЯЖЕНИЕ-набіваньне
ЗАРЯЖЕННЫЙ—набіты.
ЗАСАДА—засада.
ЗАСАРИВАНИЕ— засьмечваньне.
ЗАСАРИВАТЬ, ЗАСОРИТЬ—зацярушваць, зацярушыць, засьмечваць, засьмеціць.
ЗАСВИДЕТЕЛЬСТВОВАНИЕ—засьвядчэньне.
ЗАСВИДЕТЕЛЬСТВОВАННЫЙ—засьведчаны.
ЗАСВИДЕТЕЛЬСТВОВАТЬ—засьведчыць.
ЗАСВЕТЛО—завідна.
ЗАСЕДАНИЕ — пасяджэньне.
ЗАСЕКА (в-инж.)—завала
ЗАСЕЧКА (на гребне) — засечка.
ЗАСЛОНКА—засланка.
ЗАСЛУГА—заслуга.
ЗАСЛУЖОННЫЙ-заслужаны.
ЗАСЛУШИВАТЬ, ЗАСЛУШАТЬ — слухаць, заслухаць.
ЗАСОРЕНЬЕ — засьмечаньне, запарушэньне.
ЗАСОВ С ЧЕКОЙ—засаў з загваздкай.
ЗАСОС—твань, багна.
ЗАСТАВА—застава.
ЗАСТАВАТЬ,-ТАТЬ — заставаць, застаць.
ЗАСТАВЛЯТЬ, ЗАСТАВИТЬ --застаўляць, заставіць.
ЗАСТЕГНУТЬ,-СЯ — зашпіліць,-цца.
ЗАСТЕЖКА КРЫШКИ (стр.)—зашчапка вечка
ЗАСТРАХОВАННЫЙ— забясьпечаны, застрахаваны.
ЗАСТРАХОВАТЬ — забясьпечыць, застрахаваць.
ЗАСТРАЩАТЬ — застрашыць.
ЗАСТРЕЛИТЬ — застрэліць.
ЗАСТРОЙКА — забудаваньне.

ЗАСТРЕВАТЬ,-ЗАСТРЯТЬ—засядаць, засесьці.
ЗАСТУДИТЬ,-СЯ—застудзіць,-цца.
ЗАСТЫВШИЙ—застылы.
ЗАСУХА—-суш.
ЗА-СЧЕТ—коштам.
ЗАСЫПАТЬ, ЗАСНУТЬ—засыпаць, заснуць.
ЗАСЫПАТЬ ,ЗАСЫПАТЬ—засыпаць, засыпаць.
ЗАСЧИТЫВАТЬ,-ТАТЬ—залічваць, залічыць.
ЗАТАИТЬ ДЫХАНИЕ—прытаіць дух.
ЗАТВЕРДЕНИЕ — зацьвярдзеньне.
ЗАТВОР (у ружья) — замок.
ЗАТВОРНАЯ ЗАДЕРЖКА (стр.) — замковая задзержка.
ЗАТВОРНАЯ ПРУЖИНА (стр.)—замковая спружына.
ЗАТЕМ—потым.
ЗАТЕРЯТЬ,-СЯ — загубіць,-цца.
ЗАТИХАТЬ, ЗАТИХНУТЬ (в бою) — сьціхаць, сьціхнуць.
ЗАТИШЬЕ БОЯ—зацішша бою.
ЗАТОНУТЬ—патануць.
ЗАТОРМОЗИТЬ — запыніць, затармазіць.
ЗАТОР—затор.
ЗАТОРОПИТЬСЯ — засьпяшацца.
ЗАТРАВА—запал (пораху у гармаце).
ЗАТРАВОЧНЫЙ — агнявы.
ЗАТРАВОЧНОЕ ОТВЕРСТИЕ — агнявая шчыліна.
ЗАТРАВЛИВАТЬ, ЗАТРАВИТЬ—1) цкаваць, зацкаваць; 2) запальваць, запаліць.
ЗАТРАТА—выдатак.
ЗАТРУДНЕНИЕ—перашкода.
ЗАТРУДНИТЕЛЬНОСТЬ—труднасьць.
ЗАТРУДНИТЕЛЬНЫЙ—трудны, цяжкі.
ЗАТХЛЫЙ—затхлы.
ЗАТЫЛОК—патыліца.
ЗАТЫЛОК ПРИКЛАДА—тыліна прыкладу.
ЗАТЫЛОЧНЫЙ — патылічны, тыльны.
ЗАТЫЛОЧНЫЙ ВИНТ — тыльная шруба.
ЗАТЫЛЬНИК (стр.)—тыльнік.
ЗАТЫЧКА — затычка, корак.
ЗАТЯЖКА—зацяжка.
ЗАТЯЖНОЙ—зацяжны (стрэл).
ЗАУСЕНИЦА (стр., арт.)—задзірына.

ЗАХВАТНИЧЕСКАЯ ПОЛИТИКА — захопная палітыка.

ЗАХВАТ—захоп, захват.

ЗАХВАТЧИК — захопнік.

ЗАХВАТЫВАТЬ,ЗАХВАТИТЬ — захопліваць, захапіць; забіраць, забраць.

ЗАХВАЧЕННЫЙ РУБЕЖ — захоплены рубеж.

ЗАХОДИТЬ—заходзіць.

ЗАХОДИТЬ В ТЫЛ НЕПРИЯТЕЛЮ—заходзіць у тыл ворагу.

ЗАХОЖДЕНИЕ—заход.

ЗАХРОМАТЬ — закульгаць.

ЗАЦЕП ВЫБРАСЫВАТЕЛЯ—зацэп выцягача

ЗАЦЕПИТЬ—зачапіць.

ЗАЦЕПКА—зачапка.

ЗАЧЕРКНУТЬ — закасаваць, закрэсьліць.

ЗАЧЕТ—залік.

ЗАЧЕТНЫЙ—залікавы.

ЗАЧИСЛЕНИЕ — залічэньне.

ЗАЧИСЛЕННЫЙ — залічаны.

ЗАЧИСЛЯТЬ, ЗАЧИСЛИТЬ —залічаць, залічыць.

ЗАШЕЕК—карак.

ЗАЩЕЛКА МАГАЗИННОЙ КОРОБКИ—зашчэпка магазыннай каробкі.

ЗАЩИТА—абарона.

ЗАЩИТИТЕЛЬНЫЙ—абаронны.

ЗАЩИТНИК—абаронец.

ЗАЩИТНЫЙ ЦВЕТ—ахоўны колер.

ЗАЩИЩАТЬ ЗАЩИТИТЬ — абараняць, абараніць.

ЗАЩИЩЕННЫЙ — абаронены, ахаваны.

ЗАЯВИТЕЛЬ—заяўнік.

ЗАЯВЛЕНИЕ—заява.

ЗАЯВЛЯТЬ, ЗАЯВИТЬ—заяўляць, заявіць.

ЗБРУЯ—збруя.

ЗВАНИЕ—годнасьць.

ЗВЕЗДА—зорка.

„ ПЯТИКОНЕЧНАЯ—зорка пяцёхканцовая.

ЗВЕНО—зьвяно.

ЗВОНКИЙ—звонкі.

ЗВОНКОВАЯ СИГНАЛИЗАЦИЯ—званковая сыгналізацыя.

ЗВОНОК—званок.

ЗВУК—гук, зык.

ЗВУКОВОЙ—гукавы.

ЗДАНИЕ—будынак.

ЗДОРОВАТЬСЯ—здароўкацца.

ЗДОРОВЫЙ—здаровы.
ЗДОРОВЬЕ—здароўе.
ЗДРАВСТВУЙТЕ—дзень-добры, добры дзень.
ЗЕЛЕНЫЙ—зялёны.
ЗЕМЕЛЬНЫЙ — зямельны.
ЗЕМЕЛЬНЫЙ ОТДЕЛ (ЗЕМОТДЕЛ)—зямельны аддзел.
ЗЕМЛЕВЛАДЕЛЕЦ — земляўласьнік.
ЗЕМЛЕДЕЛИЕ — земляробства.
ЗЕМЛЕДЕЛЕЦ — земляроб.
ЗЕМЛЕКОП—грабар.
ЗЕМЛЕМЕР—каморнік.
ЗЕМЛЕПАШЕСТВО — хлебаробства.
ЗЕМЛЕТРЯСЕНИЕ — землятрасеньне.
ЗЕМЛЯ—зямля.
ЗЕМЛЯК—зямляк.
ЗЕМЛЯНКА—зямлянка.
ЗЕМЛЯНОЙ — земляны.
ЗЕМЛЯНЫЕ РАБОТЫ—земляные работы.
ЗЕМСКИЙ—земскі.
ЗЕМСТВО - земства.
ЗЕНИТ—зэніт.
ЗЕНИТНЫЙ (арт)—зэнітны.
ЗЕРКАЛО—люстра.
ЗЕРКАЛЬЦЕ—люстэрка.
ЗЕРНО—зярня.
ЗЕРНОВОЙ ХЛЕБ—збожжа.
ЗИГЗАГ—зігзаг.
ЗИГЗАГООБРАЗНЫЙ—зігзагаваты.
ЗИМА—зіма.
ЗИМНИЙ—зімовы.
ЗИМНЯЯ ДОРОГА—зімнік.
ЗИМОЮ—узімку.
ЗЛОВОНИЕ — смурод.
ЗЛОВОННЫЙ — смуродны.
ЗЛОКАЧЕСТВЕННЫЙ — злаякасны.
ЗЛОНАМЕРЕННО—злаўмысна.
ЗЛОНАМЕРЕННЫЙ—злаўмысны.
ЗЛОПАМЯТНЫЙ — злапомны.
ЗЛОУПОТРЕБЛЕНИЕ—злаўжытак.
ЗЛОУПОТРЕБЛЯТЬ-БИТЬ — ужываць, ужыць на зло.
ЗНАК—знак.
„ МЕЖЕВОЙ — знак граннічны.
„ ОТЛИЧИЯ — адзнака.
ЗНАКОМИТЬ,-СЯ—знаёміць,-цца.
ЗНАМЕНЩИК — сьцяганосец.
ЗНАМЯ—сьцяг.
ЗНАНИЕ—веда, веданьне

ЗНАТОК—знаток.
ЗНАТЬ—ведаць (што); знаць (каго).
ЗНАЧЕК—значок.
ЗНАЧЕНИЕ — значэньне.
ЗНАЧИТЕЛЬНЫЙ — значны.
ЗНОБИТЬ—зябіць.
ЗНОЙ—сьпека.
ЗНОЙНЫЙ — пякучы, варны.
ЗОВ—заклік.
ЗОЛА—попел.
ЗОЛОТО—золата.
ЗОЛОТУХА (болезнь) — залатуха.
ЗОНА БОЕВАЯ -- баявая зона.
ЗОНА ДАЛЬНЕГО ОГНЯ —зона далёкага агню.
ЗОРКИЙ—зоркі.
ЗОРКО НАБЛЮДАТЬ— пільна сачыць.
ЗРЕНИЕ—зрок.
ЗРИТЕЛЬНЫЙ—зрокавы
ЗРИТЕЛЬНАЯ СВЯЗЬ— зрокавая сувязь.
ЗУБ—зуб.
„ КОРЕННОЙ — зуб карэнны.
„ БАРАБАНА—зуб барабана.
ЗУБ ЗАЩЕЛКИ -- зуб зашчэпкі.
ЗУБЕЦ—зубец, зубок.
ЗУБИЛО — шчарбіла, зубіла.
ЗУБНОЙ—зубны.
ЗУБНАЯ ЩЕТКА - зубная шчотка.
ЗУБНОЙ ВРАЧ — зубны лекар.
ЗУБНАЯ БОЛЕЗНЬ— хвароба на зубы.
ЗУБОВРАЧЕБНЫЙ КАБИНЕТ — зубалячэбны габінэт.
ЗУБОЧИСТКА — зубачыстка.
ЗУБЧАТЫЙ—зубчасты.
ЗУБЧАТАЯ РЕЙКА (стр.) —зубчастая рэйка.
ЗУБЧАТОЕ КОЛЕСО (стр.)—зубчастае кола.
ЗУБЧАТЫЙ СЕКТОР (арт.)—зубчасты сэктар.
ЗУД—сьверб.
ЗУММЕР (св.)—зумэр.
ЗЫБИСТЫЙ — зыбкі.
ЗЯБНУТЬ—зябнуць.

# И

ИГЛА—іголка.
ИГНОРИРОВАТЬ—незважаць.
ИГО—няволя.
ИГРА—1) гульня, забава; 2) ігра.
ИГРОК—гулец.
ИДЕАЛ—ідэал.
ИДЕАЛИЗМ—ідэалізм.
ИДЕАЛЬНЫЙ — дасканалы, найлепшы.
ИДЕОЛОГИЯ—ідэолёгія.
ИДЕЯ—ідэя, думка.
ИЗБА—хата.
ИЗБА-ЧИТАЛЬНЯ — хата-чытальня.
ИЗБАВЛЯТЬ, ИЗБАВИТЬ—вызваляць, вызваліць, выратаваць.
ИЗБЕГАТЬ, ИЗБЕГНУТЬ—ухіляцца, ухіліцца (чаго).
ИЗБИРАНИЕ — выбары, абіраньне.
ИЗБИРАТЕЛЬ — выбаршчык.
ИЗБИРАТЕЛЬНЫЙ — выбарны.
ИЗБИРАТЕЛЬНОЕ ПРАВО—права выбару.
ИЗБИРАТЬ—выбіраць.
ИЗБЫТОК—лішак.
ИЗВЕСТИЕ—вестка.
ИЗВЕСТНО — ведама, вядома.
ИЗВЕСТНЫЙ -- ведамы, вядомы, знаны.
ИЗВЕЩЕНИЕ—паведамленьне.
ИЗВЕЩАТЬ, ИЗВЕСТИТЬ — паведамляць, паведаміць.
ИЗВЕСТНЯК—вапняк.
ИЗВЕСТЬ—вапна.
ИЗВЕСТЬ БЕЛИЛЬНАЯ —пабельная вапна.
ИЗВЕСТЬ ХЛОРНАЯ — хлёра.
ИЗВИЛИНА—лукавіна.
ИЗВИЛИСТЫЙ — віхляваты.
ИЗВИНЕНИЕ — выбачэньне.
ИЗВИНИТЕЛЬНО—выбачальна.
ИЗВИНЯТЬ,-НИТЬ — выбачаць, выбачыць.
ИЗВИНИТЕЛНЫЙ — выбачальны.
ИЗВИНЯТЬСЯ—прасіць выбачэньня.
ИЗВЛЕКАТЬ, ИЗВЛЕЧЬ — выцягваць, выцягнуць.
ИЗВЛЕЧЕНИЕ (из дела) —вынятка.
ИЗВЛЕЧЕНИЕ ПРИБЫЛИ—вызыск.

ИЗВНЕ—знадворку.
ИЗВОЗЧИК—рамізьнік.
ИЗВОРАЧИВАТЬСЯ — выкручвацца, спраўляцца.
ИЗВОРОТ,-ТКА — выкрутас.
ИЗВОРОТЛИВЫЙ — зваротлівы, спраўны.
ИЗВРАЩАТЬ, ИЗВРАТИТЬ—скажаць, сказіць.
ИЗВРАЩЕНИЕ — скажэньне.
ИЗГИБ РУКИ — выгіб рукі.
ИЗГОНЯТЬ, ИЗГНАТЬ—выганяць, выгнаць.
ИЗГОРОДЬ—агароджа.
ИЗГОТОВКА К СТРЕЛЬБЕ — нарыхтоўка да стральбы.
ИЗГОТОВКА К ДЕЙСТВИЮ—падрыхтоўка да дзеяньня;
БЫТЬ НА ИЗГОТОВКЕ—быць напагатове.
ИЗГОТОВЛЕНИЕ — выраб.
ИЗГОТОВЛЯТЬ, ИЗГОТОВИТЬ — вырабляць, рырабіць.
ИЗДАНИЕ—выданьне.
ИЗДАНИЕ ПРИКАЗА—выданьне загаду.
ИЗДАТЕЛЬ—выдавец.
ИЗДАТЕЛЬСКИЙ — выдавецкі.
ИЗДАТЕЛЬСТВО—выдавецтва.
ИЗДАТЬ—выдаць.
ИЗДЕВАТЕЛЬСТВО — зьдзек.
ИЗДЕВАТЬСЯ—зьдзекавацца (з каго).
ИЗДЕЛИЕ—выраб.
ИЗДЕРЖКА—страта.
ИЗДЕРЖАТЬ—страціць.
ИЗЖОГА — пячайка, пякотка.
ИЗЛАГАТЬ, ИЗЛОЖИТЬ — выкладаць, выкласьці.
ИЗЛЕЧЕНИЕ—вылячэньне; загаеньне (раны).
ИЗЛЕЧИТЬ — вылечыць, загаіць (рану).
ИЗЛИШЕК—лішак.
ИЗЛИШНИЙ—лішні.
ИЗЛОЖЕНИЕ—выклад.
ИЗЛОМ—злом.
ИЗЛОМАТЬ—зламаць.
ИЗЛУЧЕНИЕ—праменяваньне.
ИЗЛУЧИНА—лукавіна.
ИЗМАЗАТЬ.-СЯ — вымазаць,-цца.
ИЗМЕНА—зрада.
ИЗМЕНЕНИЕ—зьмена.
ИЗМЕННИК—зраднік.
ИЗМЕННИЧЕСКИЙ — зрадны.

ИЗМЕНЯТЬ, -НИТЬ 1) ЧТО — зьмяняць, зьмяніць; 2) КОМУ — зраджваць, зрадзіць.

ИЗМЕРЕНИЕ — мераньне, вымер, памер.

ИЗМЕРЕННЫЙ — вымераны.

ИЗМЕРИМОСТЬ — вымернасьць.

ИЗМЕРИМЫЙ — вымерны

ИЗМЕРИТЕЛЬ — вымернік.

ИЗМЕРИТЕЛЬНЫЙ ПРИБОР — прылада да вымеру.

ИЗМОЖДЕНИЕ — зьнясіленьне.

ИЗМОЖДЕННЫЙ — зьнясілены, змардаваны.

ИЗМОРИТЬ, -СЯ — замарыць, -цца.

ИЗМУЧИТЬ, -СЯ — змучыць, -цца.

ИЗМЫШЛЯТЬ — вымысьляць.

ИЗНАНКА — выварат; НА ИЗНАНКУ — навыварат.

ИЗНАСИЛОВАНИЕ — згвалтаваньне.

ИЗНАСИЛОВАННЫЙ — згвалчаны.

ИЗНАСИЛОВАТЬ — згвалціць.

ИЗНАШИВАТЬ — зношваць.

ИЗНЕМОГАТЬ — зьнемагаць.

ИЗНЕМОЖЕНИЕ — зьнямога.

ИЗНОС — знос, зношваньне.

ИЗНОС ЗАГИБОВ БОЕВОЙ ЛИЧИНКИ (стр.) — знос загібаў баявічка.

ИЗНУРЕНИЕ — змора.

ИЗНУРИТЬСЯ — змарыцца.

ИЗНУРИТЕЛЬНЫЙ — цяжкі.

ИЗОБИЛИЕ — дастатак.

ИЗОБИЛЬНО — у дастатку.

ИЗОБЛИЧЕНИЕ — выява.

ИЗОБЛИЧИТЬ — выявіць, высьведчыць.

ИЗОБРАЖАТЬ — рабіць відарыс, рысаваць.

ИЗОБРАЖЕНИЕ — відарыс, рысунак.

ИЗОБРЕТЕНИЕ — вынаходка.

ИЗОБРЕТАТЕЛЬ — вынаходца.

ИЗОБРЕТАТЬ — вынаходзіць.

ИЗОГНУТЫЙ ХВОСТ — прыгнуты хвост.

ИЗОЛИРОВАНИЕ — ізаляваньне.

ИЗОЛИРОВАТЬ — ізаляваць.

ИЗОЛИРОВОЧНАЯ ЛЕНТА (св.)—ізаляцыйная тасьма.
ИЗОЛЯТОР (св.) — ізалятар.
ИЗОЛЯЦИЯ—ізаляцыя.
ИЗОРВАТЬ,-СЯ — парваць,-цца, падраць,-цца
ИЗРАСХОДОВАТЬ — выдаць, страціць.
ИЗРЕДКА—калі-ні-калі.
ИЗРУБИТЬ — пасячы.
ИЗУВЕЧЕНИЕ — калечаньне.
ИЗУВЕЧИТЬ — пакалечыць.
ИЗУМИТЕЛЬНЫЙ — дзіўны, дзівосны.
ИЗУРОДОВАТЬ — скалечыць.
ИЗУЧЕНИЕ—вывучэньне.
ИЗУЧИТЬ—вывучыць.
ИЗЫСКАНИЕ — выведы, вышукі.
ИЗЫСКАТЬ — знайсьці, адшукаць.
ИЗ'ЯВЛЕНИЕ—выказ.
ИЗ'ЯВИТЬ—выказаць.
ИЗ'ЯТИЕ — вынятак, выключэньне.
ИЗ'ЯТЬ—вынаць.
ИКОТА—ікаўка.
ИЛ—глей.
ИЛИСТЫЙ—глеяваты.
ИЛЛЮЗИЯ—ілюзія.
ИЛЛЮМИНАЦИЯ — ілюмінацыя.
ИЛЛЮСТРАЦИЯ — ілюстрацыя.
ИЛЛЮСТРИРОВАТЬ — ілюстраваць.
ИМЕНИЕ—маёнтак, двор.
ИМЕННО—як-раз.
ИМЕННОЙ СПИСОК — пайменны сьпіс.
ИМЕНОВАТЬСЯ—звацца.
ИМЕТЬ—мець.
ИММИГРАЦИЯ — усяленьне.
ИМПЕРИАЛИЗМ — імпэрыялізм.
ИМПЕРИАЛИСТ — імпэрыялісты.
ИМПОРТ — прывоз, імпорт.
ИМПРОВИЗАЦИЯ — імпровізацыя.
ИМУЩЕСТВЕННЫЙ — маемасны.
ИМУЩЕСТВО — маемасьць.
ИМУЩЕСТВО ДВИЖИМОЕ — маемасьць рухомая.
ИМУЩЕСТВО НЕДВИЖИМОЕ — маемасьць нярухомая.
ИМЯ—імя.
ИНАЧЕ—інакш, іначай.
ИНВЕНТАРЬ—інвэнтар.
ИНВЕНТАРНЫЙ—інвэнтарны.
ИНВАЛИД—інвалід.
ИНВАЛИДНЫЙ — інвалідны.

ИНДЕКС—азначнік, індэкс.

ИНДИВИДУАЛЬНО—паасобку.

ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ — асабовы, асабісты.

ИНДИВИДУУМ—асоба.

ИНДУКТИВНЫЙ ТОК (св.)—індукцыйны ток.

ИНДУКТОР (св.)—індуктар.

ИНДУКЦИОННАЯ КАТУШКА (св.) — індукцыйная шпулька.

ИНДУСТРИАЛЬНЫЙ — индустрыяльны.

ИНДУСТРИЯ — індустрыя.

ИНЕЙ—шэрань, іней.

ИНЕРТНЫЙ—нярухавы.

ИНЕРЦЫЯ (арт.) — інэрцыя.

ИНЖЕКТОР—інжэктар.

ИНЖЕНЕР—інжынэр.

ИНЖЕНЕРНЫЙ — інжынэрны.

ИНЖЕНЕРНАЯ ПОДГОТОВКА (в. - инж.) — інжынэрная падрыхтоўка.

ИНЖЕНЕРНЫЕ СРЕДСТВА МАСКИРОВАНИЯ -- інжынэрныя сродкі маскаваньня.

ИНЖЕНЕРНЫЕ ВОЙСКА —инжынэрнае войска.

ИНЖ. ИМУЩЕСТВО — інжынэрная маемасьць

ИНЖЕНЕРНОЕДОВОЛЬСТВИЕ — інжынэрнае забесьпячэньне.

ИНЖЕНЕРНОЕ УПРАВЛЕНИЕ — інжынэрная ўправа.

ИНЖЕНЕРНЫЙ ПЛАЦДАРМ(в.-инж.)—инжынэрны пляцдарм.

ИНИЦИАТИВА—ініцыятыва.

ИНИЦИАТОР — ініцыятар.

ИНКВИЗИЦИЯ — інквізыцыя.

ИНКРИМИНИРОВАТЬ — надаваць віны.

ИНОЗЕМЕЦ—чужак, чужаземец.

ИНОЗЕМНЫЙ — чужаземны.

ИНОГДА—часам.

ИНОЙ—іншы.

ИНОСТРАНЕЦ — чужаземец.

ИНОСТРАННЫЙ—чужаземны.

ИНСПЕКТОР—інспэктар.

ИНСПЕКТИРОВАНИЕ— інспэктаваньне.

ИНСПЕКТОРСКИЙ — інспэктарскі.

ИНСТАНЦИЯ — інстанцыя.

ИНСТИНКТ—інстынкт.
„ САМООХРАНЕНИЯ—інстынкт самазахаваньня.
ИНСТИТУТ—інстытут.
ИНСТРУКТАЖ--інструктаж.
ИНСТРУКТИРОВАНИЕ —інструктаваньне.
ИНСТРУКТОР —інструктар.
ИНСТРУКТОРСКИЙ — інструктарскі.
ИНСТРУКЦИЯ—інструкцыя.
ИНСТРУМЕНТ — струмэнт.
ИНСТРУМЕНТАЛЬНЫЙ —струмэнтовы.
ИНСТРУМЕНТАЛЬНАЯ С'ЕМКА—струмэнтовая здымка.
ИНТЕЛЛЕКТ—розум.
ИНТЕЛЛИГЕНТ—інтэлігэнт.
ИНТЕЛЛИГЕНЦИЯ — інтэлігэнцыя.
ИНТЕНСИВНЫЙ — напруджаны.
ИНТЕНСИВНЫЙ ОГОНЬ —моцны агонь.
ИНТЕРВАЛ—прамежак.
ИНТЕРВЬЮ—размова.
ИНТЕРВЕНЦИЯ—інтэрвэнцыя.
ИНТЕРЕС інтарэс, цікавасьць.
ИНТЕРЕСНО—цікава.
ИНТЕРЕСНЫЙ—цікавы.
ИНТЕРНАЦИОНАЛ — інтэрнацыяналь.
ИНТЕРНАЦИОНАЛИСТ — інтэрнацыяналісты.
ИНТЕРНАЦИОНАЛЬНЫЙ — інтэрнацыянальны, міжнародны.
ИНТЕРНАТ—інтэрнат.
ИНТЕРНИРОВАТЬ — інтэрнаваць.
ИНТРИГА—інтрыга.
ИНТРИГАНТ—інтрыгант
ИНФЕКЦИОННЫЙ — заразны.
ИНФЕКЦИЯ—зараза.
ИНФЛЮЕНЦИЯ--інфлюэнцыя.
ИНФОРМАЦИЯ — інфармацыя, асьведамленьне.
ИНФОРМИРОВАТЬ — асьведамляць.
ИНЦИДЕНТ—выпадак.
ИОД—ёд.
ИОДНЫЙ—ёдны.
ИРОНИЯ—гіронія.
ИРРЕГУЛЯРНЫЙ — нясталы.
ИСКАЗИТЬ — сказіць, сапсаваць.
ИСКАЛЕЧИТЬ, -СЯ — склечыць,-цца.

ИСКАЛЕЧЕННЫЙ — скалечаны.

ИСКАТЬ—шукаць.

ИСКЛЮЧАТЬ, - ЧИТЬ — выключаць, выключыць

ИСКЛЮЧЕНИЕ — выключэньне.

ИСКЛЮЧИТЕЛЬНО—выключна.

ИСКЛЮЧИТЕЛЬНОЕ ПОЛОЖЕНИЕ — выключнае становішча.

ИСКЛЮЧИТЕЛЬНЫЕ МЕРЫ — надзвычайныя сродкі.

ИСКОМЫЙ—шуканы.

ИСКОПАЕМЫЕ — выкапні.

ИСКОРЕНЯТЬ, - НИТЬ — выкараняць, выкараніць.

ИСКРА—іскра.

ИСКРЕННО—шчыра.

ИСКРЕННЫЙ—шчыры.

ИСКРИВЛЕНИЕ—скрыўленьне.

ИСКРИВИТЬ,-СЯ — скрывіць,-цца.

ИСКРОШИТЬ,-СЯ — скрышыць,-цца.

ИСКУСНО—памастацку.

ИСКУСНЫЙ — мастацкі, умелы.

ИСКУССТВЕННЫЙ — штучны.

ИСКУССТВЕННАЯ МАСКИРОВКА — штучнае маскаваньне.

ИСКУССТВЕННОЕ ОСВЕЩЕНИЕ — штучнае асьвятленьне.

ИСКУССТВО--мастацтва, штукарства.

ИСПАРЕНИЕ — параваньне.

ИСПЕЧЬ - сьпячы.

ИСПОЛНЕНИЕ — выкананьне.

ИСПОЛНЕНИЕ ОБЯЗАННОСТЕЙ—выкананьне, абавязкаў.

ИСПОЛНЕНО—выканана

ИСПОЛНИТЕЛЬ — выканавец.

ИСПОЛНИТЕЛЬНАЯ КОМАНДА — канчатковая каманда.

ИСПОЛНИТЕЛЬНОЕ БЮРО (ИСПОЛБЮРО) —выканаўчае бюро.

ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ—выканаўчы камітэт.

ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КРАСНОАРМЕЕЦ — спраўны чырвонаармеец

ИСПОЛНЯТЬ, - НИТЬ — выконваць, выканаць.

ИСПОЛНЯТЬ ОБЯЗАННОСТИ — выконваць абавязкі.

ИСПОЛЬЗОВАНИЕ — скарыстаньне.
ИСПОЛЬЗОВАННЫЙ— выкарыстаны.
ИСПОЛЬЗОВАТЬ — выкарыстаць.
ИСПОРТИТЬ,-СЯ — сапсаваць,-цца.
ИСПРАВЛЕНИЕ — папраўленьне.
ИСПРАВЛЕНИЕ ОБЯЗАННОСТЕЙ — выконваньне абавязкаў.
ИСПРАВЛЯТЬ,-ВИТЬ — папраўляць, паправіць.
ИСПРАВЛЯЮЩИЙ ОБЯЗАННОСТИ — выканавец абавязкаў.
ИСПРАВНО—спраўна.
ИСПРАВНОСТЬ — спраўнасьць.
ИСПРАВНЫЙ—спраўны.
ИСПРАЖНЕНИЕ—кал.
ИСПУГ—спалох.
ИСПУГАТЬСЯ — спалохацца, зьлякацца.
ИСПЫТАНИЕ — спроба, спрабаваньне.
ИСПЫТАННЫЙ—выпрабаваны.
ИСПЫТЫВАТЬ,-ТАТЬ — пробаваць, выпрабаваць.
ИСПЫТАТЕЛЬНЫЙ — спрабавальны.
ИССЛЕДОВАНИЕ — доследз, дасьледваньне.
ИССЛЕДОВАТЕЛЬ — дасьледчык.
ИССЛЕДОВАТЬ — дасьледваць.
ИСТЕКАТЬ КРОВЬЮ — зыходзіць кроўю.
ИСТЕРИКА—истэрыка.
ИСТИННЫЙ—праўдзівы.
ИСТОК РЕКИ—выплынь ракі.
ИСТОЛКОВАТЬ—вытлумачыць.
ИСТОМА—млосьць.
ИСТОПИТЬ ПЕЧЬ — выпаліць печ.
ИСТОПНИК—апальшчык
ИСТОЧНИК—крыніца.
ИСТОЩАВШИЙ — змарнелы, высілены
ИСТОЩЕНИЕ — зьнясіленьне; страта.
ИСТОЩИТЬ,-СЯ —зьнясілець,-цца.
ИСТРЕБИТЕЛЬ (АЭРОПЛАН)—зьнішчальнік.
ИСТРЕБИТЕЛЬНАЯ ЭСКАДРИЛЬЯ (ав.)—зьнішчальная эскадрылья.
ИСТРЕБИТЕЛЬНЫЙ — зьнішчальны, згубны.
ИСТРЕБЛЕНИЕ—зьнішчэньне.
ИСХОД—выхад.
„ ДЕЛА — вынік справы.
ИСХОДАТАЙСТВОВАТЬ —выстарацца.

ИСХОДНЫЙ ПУНКТ — выходны пункт.
ИСХОДЯЩАЯ БУМАГА — адасланая папера.
ИСХОДЯЩИЙ УГОЛ — выходны вугал.
ИСЧЕЗАТЬ, ИСЧЕЗНУТЬ — зьнікаць, зьнікнуць.
ИСЧЕЗАЮЩАЯ ЦЕЛЬ— зьнікальная цэль.
ИСЧЕЗНОВЕНИЕ — зьніканьне.
ИСЧЕЗНУВШИЙ — зьніклы.
ИСЧЕРПАТЬ — вычарпаць.
ИСЧИСЛЕНИЕ — зьлічэньне.
ИСЧИСЛИТЬ—зьлічыць.
ИТАК — такім спосабам (чынам).
ИТОГ—падсумаваньне.
ИТОГО—разам.
ИТТИ—ісьці.
ИТТИ НАПРЯМИК—ісьці нацянькі.
ИТТИ НА ПЕРЕРЕЗ — ісьці напярэсьцігі.
ИЩЕЙКА—(собака) — сабака - выведнік.
ИЮНЬ—чэрвень.
ИЮНЬСКИЙ - чэрвеньскі.
ИЮЛЬ—ліпень.
ИЮЛЬСКИЙ—ліпнёвы.
ИСТРЕБОВАНИЕ — вытрабаваньне.
ИСТРЕБОВАТЬ — вытрабаваць.
ИСТЯЗАНИЕ — катаваньне.
ИСТЯЗАТЕЛЬ—кат.
ИСТЯЗАТЬ—катаваць.

# К

КАБАЛА—няволя.
КАБЕЛЬ (св.) — кабель.
„ ПОДВОДНЫЙ— падводны кабель.
КАБИНЕТ—габінэт.
КАБЛУК—абцас.
КАБОТАЖ (мор.) — паўзьбярэжнае плаваньне.
КАВАЛЕРИЙСКИЙ-- конны.
КАВАЛЕРИСТ—коньнік.
КАВАЛЕРИЯ—коньніца.
КАДКА—кадушка.
КАДР—кадр.
КАДРОВЫЙ—кадравы.
КАЖДОДНЕВНЫЙ — штодзенны.
КАЖДЫЙ — кожны.
КАЗАК—казак.
КАЗАЦКИЙ—казацкі.
КАЗАРМА—кашара.
КАЗАРМЕННЫЙ—кашаравы.

КАЗАЧИЙ—казачы.
КАЗЕМАТ—казэмат.
КАЗЕННАЯ ЧАСТЬ СТВОЛА — зьмяшчальная часьць рулі.
КАЗЕННИК (стр.) — зьмяшчальнік.
КАЗЕННОЕ ИМУЩЕСТВО—дзяржаўная маемасьць.
КАЗЕННЫЙ — дзяржаўны.
КАЗНА — дзяржаўны скарб.
КАЗНАЧЕЙ—скарбнік.
КАЗНАЧЕЙСТВО—скарбовая камора.
КАЗНИТЬ — караць сьмерцю.
КАЗНЬ—кара сьмерцю.
КАЛ—кал.
КАЛАНЧА—вежа.
КАЛЕКА—калека.
КАЛЕЧИТЬ—калечыць.
КАЛЕНДАРЬ—каляндар.
КАЛЕНДАРНЫЙ — каляндарны.
КАЛЕНИЕ—гартаваньне.
КАЛЕНЫЙ—гартаваны.
КАЛИБР—калібар.
КАЛИБРОМЕР (стр). — калібарамер.
КАЛИЕВЫЙ—каліевы.
КАЛИЙ—калі.
КАЛИТКА—фортка.
КАЛИТЬ — гартаваць (мэталь).
КАЛОРИМЕТР—калёрымер.
КАЛОРИЯ—калёрыя.
КАМЕНИСТЫЙ — камяністы.
КАМЕНОЛОМНЯ—каменяломня.
КАМЕННЫЙ — каменны.
КАМЕННЫЙ ДОМ — камяніца.
КАМЕННЫЙ УГОЛЬ—каменны вугаль.
КАМЕРА—камора.
КАМПАНИЯ — кампанія, паход.
КАМУФЛЯЖ (в.-инж.)—сьветлацень.
КАМФОРА—кампора.
КАМЫШ—чарот.
КАНАВА—канава.
КАНАЛ—канал.
КАНАЛ СОЕДИНИТЕЛЬНОЙ ПЛАНКИ—канаўка злучальнай планкі.
КАНАЛ СТВОЛА (стр.) — куляход рулі.
КАНАЛ СТВОЛЬНОЙ КОРОБКИ—канаўка рульнай каробкі.
КАНАЛ СТЕБЛЯ ЗАТВОРА — канаўка чаранка замка.
КАНАЛИЗАЦИЯ — каналізацыя.
КАНАТ—канат.
КАНДАЛЫ—кайданы.
КАНДИДАТ — кандыдат.

КАНДИДАТУРА — кандыдатура.
КАНИКУЛЫ—вакацыі.
КАНИКУЛЯРНЫЙ — вакацыйны.
КАНИФОЛЬ — каніфоля.
КАНОНАДА—страляніна (з гармат).
КАНТ (шаровар)—кант.
КАНЦЕЛЯРИСТ—канцылярысты.
КАНЦЕЛЯРИЯ — канцылярыя.
КАНЦЕЛЯРСКИЕ ПРИНАДЛЕЖНОСТИ - канцылярскія прыналежнасьці.
КАПЕЛЬМЕЙСТЕР — капэльмайстар.
КАПИТАЛ—капітал.
КАПИТАЛИЗМ — капіталізм.
КАПИТАЛИСТ — капіталісты.
КАПИТАЛИСТИЧЕСКИЙ —капіталістычны.
КАПИТАЛЬНЫЙ—асноўны, грунтоўны.
КАПИТАН (судна) — капітан.
КАПИТУЛЯЦИЯ — капітуляцыя.
КАПИТУЛИРОВАТЬ— капітуляваць.
КАПКАН—пастка.
КАПЛЯ—кропля, капка.
КАПОТ (ав.)—капота.
КАПСУЛЬ—пістон.
КАПСУЛЬ ДЕТОНАТОР (стр)—пістон-дэтанатар
КАПСУЛЬ В ВИДЕ КОЛПАЧКА—пістон-каптурок.
КАПТЕНАРМУС — магазыньнік.
КАРАБИН—карабін.
КАРАВАН—караван.
КАРАНДАШ—карандаш, аловак.
КАРАНТИН—карантына.
КАРАНТИНИЗАЦИЯ— карантынізацыя.
КАРАТЕЛЬНЫЙ—карны
КАРАТЕЛЬНЫЕ МЕРЫ —сродкі пакараньня.
КАРАУЛ—каравул.
КАРАУЛИТЬ—стаяць на варце.
КАРАУЛЬНАЯ СЛУЖБА—каравульная служба.
КАРАУЛЬНАЯ ЧАСТЬ— каравульная часьць.
КАРАУЛЬНОЕ ПОМЕЩЕНИЕ — каравульня.
КАРАУЛЬНЫЕ ПОСТЫ —каравульныя варты.
КАРАУЛЬНЫЙ НАЧАЛЬНИК — каравульны начальнік.
КАРАУЛЬЩИК—вартаўнік.
КАРБОЛОВАЯ КИСЛОТА—карболка.
КАРМАН—кішэня.
КАРНИЗ—карніза, гзымс.

КАРТА—карта.
КАРТА ГЕОГРАФИЧЕСКАЯ — географічная карта.
КАРТЕЧЬ—картэч.
КАРТОГРАММА — картаграма.
КАРТОН—кардон.
КАРТОННАЯ ПАЧКА—кардонны пачак.
КАРТОФЕЛЬ—бульба, картопля.
КАРТОЧКА—картка, картачка.
КАРТОЧНЫЙ-карткавы.
КАРТУЗ—картуз, брыль.
КАРЬЕР—наўзгалоп.
КАРЬЕРОМ — наўзгалōпам.
КАРЦЕР—карцар.
КАСАТЬСЯ—датыкацца.
КАСКА—каска.
КАССА—каса.
КАССАЦИОННЫЙ—касацыйны.
КАССАЦИЯ—касацыя.
КАССИР—касір.
КАСТА—каста.
КАСТОРКА—рыцына.
КАТАСТРОФА — катастрофа.
КАТАСТРОФИЧЕСКИЙ—катастрафічны.
КАТЕГОРИЧЕСКИЙ—рашучы.
КАТЕГОРИЯ ВОЕННОСЛУЖАЩИХ — катэгорыя вайскоўцаў.
КАТЕР—катэр.
КАТОК—коўзанка.
КАТКИ ПУЛЕМЕТНЫЕ—качолкі кулямётныя.
КАТУШКА—шпулька.
КАУЧУК—каўчук.
КАЧАНИЕ — качаньне, калыханьне, хістаньне.
КАЧАТЬ-СЯ — качацьцца, калыхаць-цца, хістаць-цца.
КАЧЕСТВЕННЫЙ — якасны.
КАЧЕСТВО—якасьць.
КАШЕВАР—кашавар.
КАШЕЛЬ—кашаль.
КАЮТА—каюта.
КВАДРАНТ С ОТВЕСОМ—(арт. стр.)—квадрант з адвесам.
КВАДРАТ—квадрат.
КВАДРАТНЫЙ—квадратовы.
КВАДРАТУРА (помещения)-квадратура.
КВАЛИФИКАЦИЯ—кваліфікацыя.
КВАЛИФИЦИРОВАННЫЙ — кваліфікаваны.
КВАЛИФИЦИРОВАТЬ—кваліфікаваць.
КВАРТИРА—кватэра.
КВАРТИРАНТ — кватарант.
КВАРТИРЕР—кватэрны.
КВАРТИРМЕЙСТЕР — кватэрмістр.

КВАРТИРНОЕ ДОВОЛЬСТВИЕ — квартэрнае забесьпячэньне.
КВАРТИРНЫЙ — кватэрны.
КВАРТИРОВАНИЕ (частей)—кватараваньне.
КВАСЦЫ—галун.
КВИТАНЦИЯ — квіток, квіт.
КВОРУМ—кворум.
КЕРНЕНИЕ (стр.) — керненьне.
КЕРОСИН—газа.
КЕРОСИНОВЫЙ—газавы
КЕРОСИНОВАЯ ЛАМПОЧКА—газоўка.
КИЛОГРАММ—кілёграм,
КИЛОМЕТР—кілёмэтр.
КИЛЬ (мор).—кіль, трам.
КИЛЬВАТЕР—кільватэр.
КИНЖАЛ—кінджал.
КИНЖАЛЬНЫЙ ПУЛЕМЕТ—кінджальны кулямёт.
КИНЕМАТОГРАФ—кіно, кінэматограф.
КИНО-СЕАНС — кіносэанс.
КИПЯТИЛЬНИК — кіпяцільнік.
КИПЯТИТЬ— гатавацъ (ваду).
КИПЯТОК—вар, кіпень.
КИПЯЧЕНАЯ ВОДА — гатаваная вада.
КИРКА—кірка.
КИРКО-МОТЫГА (в.-инж.)—кірка-матыка.
КИРПИЧ—цэгла.
КИСЛОРОД—тлен.
КИСЛОРОДНЫЙ — тленавы.
КИСЛОТА—квас, кісьля.
КИСТОЧКА—пэндзьлік.
КИСТЬ (руки)—пясьць.
КИШКА—кішка.
КЛАДБИЩЕ—могілкі.
КЛАДОВАЯ—камора.
" ДЛЯ ОВОЩЕЙ—варыўня.
КЛАДЬ—паклажа.
КЛАПАН—кляпан.
КЛАСС—кляса.
КЛАССИФИКАЦИЯ — клясыфікацыя.
КЛАССОВАЯ БОРЬБА— клясавае змаганьне.
КЛЕВОК (арт.) — клявок.
КЛЕЙ—клей.
КЛЕЕНКА—цырата.
КЛЕЙМИТЬ — клеймаваць.
КЛЕЙМО—кляймо.
КЛЕРИКАЛ—клерыкал.
КЛЕТКА — клетка.
КЛИЕНТ—кліэнт.
КЛИКА—зграя, кліка.
КЛИМАТ—клімат.
КЛИНИКА—клініка.
КЛИНОК—клінок.
КЛИЧ—покліч.

КЛИЧКА — клічка, мянушка.
КЛУБОК—клубок.
КЛУБ—клюб.
КЛЮЧ—ключ.
КЛЮЧИЦА—дужка.
КЛЯТВА — прысяга. кляцьба.
КЛЯСТЬТЯ — прысягацца, клясьціся.
КНИГА АРЕСТОВАННЫХ—кніга на арыштаваных.
КНИГА ОТПУСКНЫХ— кніга на адпускных.
КНИГА ПРИБЫВАЮЩИХ—кніга на прыбылых.
КНИЖНЫЙ МАГАЗИН— кнігарня.
КНОПКА (канц.)—кнопка.
КНУТ—бізун, пуга.
КОАЛИЦИОННЫЙ— коаліцыйны.
КОАЛИЦИЯ—коаліцыя.
КОБУРА (стр.)—похва.
КОБЫЛА—кабыла, кабыліца.
КОВАРНЫЙ—зрадлівы.
КОВКА- каваньне.
КОВОЧНАЯ ВЕДОМОСТЬ —росьпіс каваных коняй.
КОДЕКС—кодэкс.
КОЖА—скура.
КОЖАННЫЙ—скураны.
КОЖЕВЕННИК—гарбар.
КОЖУХ (стр.) — халадзільнік.
КОЗЛЫ (руж.)—козлы.
КОЗЫРЁК (у картуза)— брыль.
КОЙКА—ложак.
КОКОР (арт.)—кокар.
КОЛЕБАНИЕ—хістаньне, ваганьне.
КОЛЕБАТЬСЯ — хістацца, вагацца.
КОЛЕБЛЮЩИЙСЯ— хісткі, які хістаецца.
КОЛЕНЧАТАЯ ПРОРЕЗЬ —каленкаваты прарэз.
КОЛЕНЧАТЫЙ ПАЗ— каленкаваты паз.
КОЛЕНЧАТЫЙ РЫЧАГ —каленкаваты падважнік.
КОЛЕСО—кола.
КОЛЕСНИК—калясьнік.
КОЛЕСНАЯ МАЗЬ— каламазь.
КОЛЕЯ—каляіна.
КОЛИКИ —колікі.
КОЛИЧЕСТВЕННЫЙ— колькасны.
КОЛИЧЕСТВО — колькасьць.
КОЛКИЙ—калючы.
КОЛЛЕГИЯ—калегія.
КОЛЛЕКТИВ—калектыў.
КОЛЛЕКТИВИЗМ — калектывізм.
КОЛЛЕКТИВНЫЙ — калектыўны.

КОЛЛИЗИЯ — колізія.
КОЛОДЕЗНЫЙ — калодзежны.
КОЛОДЕЗЬ—калодзеж.
КОЛОДКА—калодка.
КОЛОДКА ПРИЦЕЛЬНАЯ (стр.)—калодка прыцэльніка.
КОЛОКОЛЬНЯ—званіца.
КОЛОНИЗАЦИЯ — асадніцтва.
КОЛОНИСТ—асаднік.
КОЛОНИАЛЬНЫЙ—коленіяльны.
КОЛОНИЯ—колёнія.
КОЛЛОННА—калюмна.
КОЛОРИТ—афарбоўка.
КОЛОССАЛЬНЫЙ—вялізарны, вялічэзны.
КОЛОТУШКА (стр.)—пабівачка.
КОЛОТЬ—калоць.
КОЛПАК — калпак, каптур.
КОЛПАЧОК (стр.)—каптурок.
„ ОТВЕРТКИ—рэхва адкруткі.
КОЛУН—калун.
КОЛЫШЕК—калочак.
КОЛЬЦЕВАЯ ДОРОЖКА ДУЛЬНОЙ НАКЛАДКИ (стр.) — гняздо дульнай накладкі.
КОЛЬЦЕВОЙ — колцавы.
КОЛЬЦЕВОЙ ПАЗ СТВОЛЬНОЙ КОРОБКИ (стр.)—колцавы паз рульнае каробкі.
КОЛЬЦО—колца.
КОЛЬЦО БОЕВОГО ВЗВОДА (стр.)—колца боявога ўзводу.
КОЛЬЧУГА—кальчуга.
КОЛЮЧИЙ—калючы.
КОЛЮЧАЯ ПРОВОЛОКА—калючы дрот.
КОЛЮЩЕЕ ОРУЖИЕ—калючая зброя.
КОМ—груда.
КОМАНДА—каманда.
КОМАНДИР — камандзір.
„ КОРПУСА (комкор) — камандзір корпусу (камкор).
КОМАНДИР ДИВИЗИИ (комдив) — камандзір дывізіі (камдыў).
КОМАНДИР БРИГАДЫ (комбриг)—камандзір брыгады (камбрыг).
КОМАНДИР ПОЛКА (комполк) — камандзір палка (камполк).
КОМАНДИР БАТАЛЙОНА (комбат)—камандзір батальёна (камбат).
КОМАНДИР РОТЫ (комрот) — камандзір роты (камрот).

